
Аналізы па заказе→3

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960

NR INDEKSU 366714


КАЛЯНДАР 2015 — праз тыдзень

http://niva.bialystok.pl

redakcja@niva.bialystok.pl

№ 50 (3057) Год LIX | Беласток, 14 снежня 2014 г. | Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)


**Падчас Агульнага з'езда членаў аб'яднання «Музей і асяродак беларускай культуры ў Гайнаўцы», які адбыўся 28 лістапада ў кіназале белмузея, планавалася прыняць новы статут гэтай арганізацыі і паводле яго выбраць новых членаў управы аб'яднання. Аднак сабралася мала членаў белмузейнай арганізацыі і не было кворуму, каб прыняць новы статут. Зараз у аб'яднанні «Музей і асяродак беларускай культуры» зарэгістраваных 55 чалавек, а на сустрэчу прыбыло толькі 25 яго членаў. Арганізатары з'езда патлумачылі, што не хапіла 4 асобы, каб можна было зацвердзіць новы статут. Са зменамі, у параўнанні да старога статуту, пазнаёміліся сабраныя і не выявілі засцярог да новых прапаноў. Падчас з'езда адбылося падвядзенне вынікаў працы музейных улад у апошнім перыядзе. Паявіліся прапановы наконт дзейнасці белмузея ў будучыні, а найбольш увагі сабраныя адвялі дыскусіі: ці будаваць, за што будаваць і як будаваць праваслаўную часоўню на прымузейнай плошчы?**

# З'езд у Гайнаўскім белмузеі

У першых месяцах будучага года прадбачваецца арганізаваць Нечарговы з'езд аб'яднання «Музей і асяродак беларускай культуры ў Гайнаўцы» і падчас яго прыняць новы статут арганізацыі і выбраць паводле яго 9 членаў управы белмузейнага аб'яднання, якія пасля самі маюць выбіраць праўленне ўправы з 5 чалавек. Паколькі меншае колькасць членаў аб'яднання, прапануецца таксама дзейнасць паменшаных управы і праўлення, у якім мае быць вылучаны старшыня, адзін яго намеснік, сакратар і 2 членаў. З'езд вяла Валянціна Клімук, а ўспамагалі яе сённяшні старшыня белмузейнага аб'яднання Міраслаў Мордань і выконваючы абавязкі дырэктара белмузея Тамаш Ціханюк, які падвёў вынікі працы музея на працягу апошніх звыш чатырох гадоў яго дзейнасці.

Перад самым з'ездам Васіль Сакоўскі, Ян Хіліманюк і Аляксей Харкевіч успаміналі пра падзеі з мінулага, якія давялі да ўмоў, у якіх Гайнаўскі белмузей дзейнічае цяпер. У 1983 годзе быў створаны «Грамадскі камітэт пабудовы музея помнікаў беларускай культуры і рэвалюцыйнага руху ў Гайнаўцы» і распачалася пабудова Гайнаўскага белмузея, які атаясамліваецца з яго галоўным будаўніком Канстанцінам Майсенем. Назва пасля была зменена на «Грамадскі камітэт пабудовы музея помнікаў беларускай культуры ў Гайнаўцы», а на яго аснове ўзнікла пазней аб'яднанне «Музей і асяродак беларускай культуры ў Гайнаўцы». Вельмі многа клапаціўся Канстанцін Майсеня, каб пабудаваць і абсталяваць беларускі музей і доўга кіраваў яго дзейнасцю. Пакойны Канстанцін многа ездзіў у Беларусь, раздабываючы там будаўнічыя матэрыялы для будовы музейных будынкаў, а мясцовыя беларусы пад кіраўніцтвам Канстанціна Майсені збіралі экспанаты для музея, які паўстаў на ўчастку, перададзеным уладамі Гайнаўкі. Будаваўся музей за кошт складчын беларусаў з усяго свету і з дапамогай сродкаў дзяржаўнага бюджэту Польшчы, устаноў Рэспублікі Беларусь, з фінансавай дапамогай мясцовых улад, а таксама з выкарыстаннем іншых сродкаў. Вялікае дафінансаванне на будаўнічыя працы прыйшло ад Польска-Швейцарскай камісіі залатавых сродкаў, а падчас хваробы і пасля смерці пакойнага Канстанціна Майсені працай музея кіравалі Ян Хіліманюк, Ян Карпюк і цяпер робіць гэта Тамаш Ціханюк. Зараз экспанаты, што сведчаць аб жыцці беларусаў у мінулым на Беласточчыне, прэзентуюцца на прафесійна выкананых пастаянных экспазіцыях. Ладзяцца тут часовыя мастацкія выставы, музычныя канцэрты, спектаклі, агляды беларускіх фільмаў, майстар-класы, спатканні з гісторыкамі, літаратарамі, ці грамадскімі дзеячамі, а таксама арганізуюцца «Мастацкія сустрэчы школьнікаў». На музейнай плошчы Музей і асяродак беларускай культуры арганізуе беларускі этнаграфічны фестываль «Культура на музейных сходах», а ў нашых вёсках музей ладзіць беларускія фэсты з цыкла «І там жывуць людзі». Белмузей арганізуе фотаконкурс «Падляшша ў аб'ектыве», публікуе матэрыялы аб беларускіх мастаках пасля прэзентавання іх прац на асобных выставах. Музейную бібліятэку наведваюць мясцовыя вучні, настаўнікі беларускай мовы, студэнты і асобы зацікаўленыя беларускай літаратурай і гісторыяй. Кнігазбор пастаянна папаўняецца і зараз у бібліятэцы знаходзіцца больш за 11 тысяч кніжак. Дырэктар Тамаш Ціханюк паінфармаваў, што ў апошніх гадах дзейнасці белмузея быў праведзены рамонт кіназалы і яе наваколля, а апошнім часам белмузей стаў атрымліваць дафінансаванне сваіх праектаў з Міністэрства адміністрацыі і лічбавізацыі, Маршалкоўскай управы ў Беластоку, з гарадскога бюджэту горада Гайнаўкі, бюджэту Павятовага староства ў Гайнаўцы і з Рэспублікі Беларусь. На з'езд прыбыў дырэктар Культурнага цэнтра Беларусі ў Польшчы Эдуард Швайко, які абяцаў дапамогу белмузею, арганізаванне штогод двух-трох буйных мерапрыемстваў у Гайнаўскім белмузеі, запрапанаваў наладзіць паездку тэатральнай групы, што дзейнічае ў музеі, у Беларусь і супрацоўніцтва пры рэалізацыі іншых культурных мерапрыемстваў. Першым падчас дыскусіі выступіў былы настаўнік беларускай мовы ў Гайнаўскім белліцэі Васіль Сакоўскі, які будаваў музей з самага пачатку.

— Гайнаўскі белмузей — гэта вялікія, абсталяваныя па-сучаснаму будынкі і багатая прапанова дзейнасці — выставы, бібліятэка, архіў, кіно, кавярня і арганізацыя шматлікіх культурных мерапрыемстваў. Многа працы ўклалі пакаленні беларусаў, каб гэтага дабіцца. За мала ёсць зараз штатных працаўнікоў, каб музей яшчэ больш мог разгарнуць сваю дзейнасць, але не хапае сродкаў, каб павялічыць колькасць работнікаў. Ёсць актывісты белмузея, але іх нямнога і ўжо моцна прыстарэлыя. Беларускі музей у Гайнаўцы гэта велізарны козыр для беларусаў Беласточчыны, але не хапае свежых асоб, якія хацелі б падмяняць найстарэйшых дзеячаў, — сказаў Васіль Сакоўскі. — За мала ў нас супрацоўніцтва з беларускімі арганізацыямі і трэба задумацца як больш прыцягнуць іх да нас. Трэба пабольшаць супрацоўніцтва з іншымі музеямі і нашымі міні-музейчыкамі, якія вядуць нашы земляробы.



Белмузейныя дзеячы (сядзяць злева) Ян Хіліманюк, Васіль Сакоўскі, Аляксей Харкевіч і Віктар Бура ўспаміналі пра пачаткі музея

Выступаючы раней Тамаш Ціханюк пералічваў музейныя ўстановы і беларускія арганізацыі, з якімі супрацоўнічае белмузей.

— У планах Канстанціна Майсені была пабудова праваслаўнай каплічкі, у якой будзе святы патрон. Абавязкова музею, а можа і музейнай арганізацыі трэба прысвоіць імя Канстанціна Майсені, — удакладніў у канцы выступлення Васіль Сакоўскі.

Віктар Бура прапанаваў вярнуць беларускі арнамент на будынак музея і ўстанавіць на музеі дошку з інфармацыяй, што музей збудаваны дзякуючы ангажаванасці беларускага грамадства і дапамозе ўлад Беларусі. Падтрымаў ён прапановы назваць музей імем Канстанціна Майсені, пабудаваць часоўню і заявіў, што можа пасадзейнічаць у атрыманні цэглы на будову капліцы. Пахваліў ён Тамаша і Агнешку Ціханюкоў за вялікую працу ў карысць музея. Міхал Байко ў сваю чаргу запрапанаваў заснаваць камітэт будовы праваслаўнай часоўні на прымузейнай пляцоўцы. Аднак былы бургамістр Гайнаўкі Анатоль Ахрыцюк заявіў, што спачатку трэба правесці фінансавы аналіз магчымасцей здабывання сродкаў на будову праваслаўнай часоўні, паколькі выпрацаваны музеем прыбытак выдаткоўваецца на бягучую музейную дзейнасць.

— У нас ёсць праект пабудовы на прымузейнай пляцоўцы скансэна беларускага будаўніцтва і запланавана там збудаваць праваслаўную часоўню, — заявіў віцэ-старшыня музейнага аб'яднання Аляксандр Харкевіч. Напомніў ён, што скансэн, а ў гэтым ліку і часоўня, маюць быць драўлянымі, але няма сродкаў, каб рэалізаваць запланаваную здання ідэю.

Міхал Байко прапанаваў таксама выступіць за вяртанне цікавых гістарычна экспанатаў, якія знаходзіліся ў Этнаграфічным музеі ў Белавежы, а пасля яго ліквідацыі не былі перададзеныя ў Цехановец, а толькі знаходзіліся ў старым будынку Прыродазнаўчага музея ў Белавежы, ажно да яго разбурэння. Пасля былі яны перададзены ў нейкі музей у Польшчы.

— Ёсць у нас фінансавыя цяжкасці, але дзейнасць музея ідзе ў добрым накірунку і мы спадзяемся, што ў будучыні музей яшчэ больш разгорне сваю дзейнасць, — перакананы старшыня музейнага аб'яднання Міраслаў Мордань.

Сабраныя прапанавалі зацікавіць дзейнасцю аб'яднання «Музей і асяродак беларускай культуры ў Гайнаўцы» настаўнікаў беларускай мовы, прадстаўнікоў інтэлігенцыі і маладых людзей з думкай, каб пасля ўступілі яны ў белмузейную арганізацыю. Прапанавалася таксама скантактавацца з усімі членамі музейнага аб'яднання і пастарацца заахвоціць іх прыняць удзел у Нечарговым з'ездзе членаў аб'яднання «Музей і асяродак беларускай культуры ў Гайнаўцы», які прапанаваў арганізаваць у студзені або лютым 2015 года.

**Тэкст і фота Аляксея МАРОЗА**





# Ленінскі суд

10 снежня цывілізаваны свет чарговы раз адзначыць угодкі прыняцця сусветнай Дэкларацыі правоў чалавека. Прызнае гэтую дэкларацыю і Рэспубліка Беларусь. Згадка пра гэтую дату прапісана нават у кожным школьным дзённіку. Але Дэкларацыя правоў нібыта ёсць, а самых правоў у беларусаў у сваёй дзяржаве парнейшаму няякіх. Варта хоць бы пару разоў апынуцца ў залах судовых пасяджэнняў, каб зразумець на якой стадыі развіцця юстыцыі знаходзіцца гэтая сістэма прынянжэння, дыскрымінацыі людзей, а часам і непрыхаванага здзеку з іх. Асабліва калі разгляд судовых спраў звязаны з асноўнымі грамадзянскімі правамі, правам на свабоду слова і выяўлення сваіх поглядаў. Фантасмагорыя, гратэск, ігнараванне фактаў, тэатр абсурду — усё гэта пераплецена на такіх працэсах і не можа не здзіўляць нават звыклых з такім фарсам, аформленым у судовую „абгортку”.

Вось яскравы прыклад як дзеіць судовая сістэма ў Беларусі. Нейкі невядомы нам „товарищ полковник” КГБ (а можа маёр, а можа вышэй палкоўніка) аддае загад пакараць удзельнікаў Дня памяці паўстанцаў 1863 года, што прайшоў 26 кастрычніка бягучага года ў Свіслачы. Як жа так, сабраліся людзі ўспомніць сваіх нацыянальных герояў, ускласці кветкі да магіл патрыётаў, запаліць знічы — навідавоку ўсе прыкметы „злачынства”. І вось адзін з выканаўцаў ганебнага загаду начальнікаў свіслацкай міліцыі Віктар Ганчарэвіч высмоктвае з пальца і складае фальшывыя пратаколы пра нібыта здзейсненыя адміністрацыйныя правапарушэнні. А суддзя Ленінскага (нездарма ён завецца Ленінскім!) раённага суда Гродна Алена Пятрова, нягледзячы на ўсе факты і сведчанні на нашу карысць, штрафуе нас, чатырох чалавек, агулам на 100 (!) базавых велічынь, прыносячы ў даход дзяржавы за 2 гадзіны сваёй „працы” 15 мільёнаў беларускіх рублёў (што ў пераразліку складае амаль тысячу чатырыста долараў). Пры тым і факты, і сведчанні міліцыянераў, якія самі пацвярджаюць, што мы не парушалі грамадскага парадку, на нашу карысць. Але суддзя, дама бальзакаўскага веку, трактуе факты так як ёй трэба. Міхал Карневіч прадстаўляе ёй пасведчанне пра афіцыйную акрэдытацыю журналіста, накіраванне рэдакцыі ў Свіслач, але ўсё гэта папросту ігнаруецца. Суддзя фактычна не прызнае яго журналістам. Караюць нас апрача іцхай прысутнасці ў Свіслачы і за фотаздымак, зроблены ў колішнім фальварку Каліноўскіх Якушоўка ля памятнага крыжа. На гэтым здымку пару чалавек разгарнулі нацыянальныя бел-чырвона-белыя сцягі. Караюць не толькі іх, але і многіх з тых, хто быў побач. Дзяржаўныя органы лічаць гэта злачынствам.

Далей. Заяўляю на працэсе хадайніцтва пра тое, каб мае сведчанні занатоўваліся па-беларуску. А суддзя кажа, што ў іх камп'ютары няма беларускага алфавіту, гэта зрабіць немагчыма і адмаўляе ў такім праве. Дык што гэта нейкае прыватнае судзілішча ці дзяржаўны суд?! У Рэспубліцы Беларусь у судзе няма месца для беларускай мовы! Дык хто дыскрэдытуе гэтую дзяржаву — мы, журналісты, якія пішам праўду і якіх цэлы час за гэта пераследуюць, ці вось такія „ленінскія суды”?!

Але чаго тут здзіўляцца. Былі ўжо зафіксаваны такія выпадкі, калі ў Мінску засудзілі нямога за тое, што ён „выкрикивал антиправительственные лозунги”, а ў Гродне аднарукага за тое, што пляскаў на знак пратэсту ў далоні. Ды і што нашы дробныя адміністрацыйныя справы ў параўнанні з тым беззаконнем, якое дзеецца па справах крымінальных. З тымі катаваннямі і здзекамі, якія трываюць зняволеныя ў турмах і калоніях. З той колькасцю зняволеных (а Беларусь па статыстыцы тут на адным з першых месцаў у свеце!) і несправядліва, альбо неадэкватна засуджаных.

Светам кіруюць сімвалы. І пакуль у Беларусі будуць стаяць помнікі стваральніку адной з найзлачыннейшых сістэм у гісторыі чалавецтва, пакуль суды будуць „ленінскімі”, не будзе ні правоў чалавека, ні парадку, ні справядлівасці, ні дабрабыту.

Як у тым старым гіце папулярнага беларускага рок-гурту: „А Ільіч усміхаецца”.

**Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

# Адкуль,
## чорт вазьмі, у Еўропе...



У пачатку сенсацыйная навіна: навукоўцы выявілі першую ў свеце выкапнёвую акамянеласць мясаеднай расліны з клейкай пасткай. Яе лісты, пакрытыя сакраторнымі валасінкамі, захаваліся ў кавалку балтыйскага бурштыну, якому 36 мільёнаў гадоў. Не ведаю як чытачоў, але гэтая знаходка мяне вельмі кранула. Тым больш, што знаходжу з ёю моцныя аналогіі ў суседніх з Польшчай грамадствах. Я пішу гэта без ценю іроніі. Хутчэй за ўсё з прарочым болем. Але перш, чым пра Украіну, Расію, Беларусь, некалькі слоў пра тую акамянеласць.

Марфалагічныя характарыстыкі затанулага ў бурштыне ўзору паказваюць на яго відавое падабенства да насякомаедных раслін, аналагічных расянцы (рарыдула), якая існуе сёння толькі на некалькіх (знікаючых) пазіцыях у Афрыцы. Да нядаўняга часу лічылася, што гэты выгляд ніколі не выходзіў са сваёй афрыканскай глушы. Адкрыццё яе артэфакту ў балтыйскім бурштыне, аднак, паказвае, што гэтая расліна шырока выступала на абшары супольнага кантынента вядомага як Гандвана, які ў канчатковым выніку распаўся на кантыненты вядомыя нам сёння. У меру як асушваліся кантыненты і са з'яўленнем новага віду раслін, рарыдулы амаль цалкам зніклі на зямным шары. Асталіся толькі ў першабытных афрыканскіх экасістэмах. У адрозненне ад іншых расянкавых яны не выпрацоўваюць стрававальных ферментаў, якія дазволілі б ім засвоіць бялок насякомых. І, увайшоўшы ў лады з некаторымі відамі перапончатакрылых насякомых, якія жыруюць на іхніх ахвярах злоўленых на ліпкія валаскі. Пасля сытнага харчу бяседнікі не адлятаюць, аднак, як Бог загадаў, на бок, але з удзячнасцю какаюць на лісце раслін. Тыя, у сваю чаргу, паглынаюць пажыўныя рэчывы з адходаў. Гэты вытанчаны, хаця не вельмі эстэтычны сімбіёз знаходзіць сваё падабенства так у Беларусі, як і ў Расіі. І да нядаўняга часу ва Украіне. Гаворка ідзе пра іх грамадствы і ўлады, якія на гэта даюць сваю згоду.

Здавалася б, што з распадам Савецкага Саюза — які для многіх людзей асацыюецца з абсалютнай аўтарытарнай уладай, ідэалагічным цынізмам, крывадушнасцю, бракаробствам і зладзействам — прыйшлі часы ўсеагульнай грамадскай адкрытасці, дэмакратызацыі дзяржаўных інстытутаў, грамадзянскай волі. А затым прыліву энергіі, стымулюючай у санлівых народах прадпрымальніцкі дух і новыя памкненні. Справядлівасць. Росквіт. Веру ў лепшую будучыню. Прынамсі такое спадзяванне меў у сабе энтузіязм новастворанага краін: Расіі, Украіны, Беларусі... Нічога такога. Пасля кароткага перыяду эйфарыі, калі высветлілася, што грамадзянская свабода не з'яўляецца каштоўнасцю самой па сабе, але вынікам працы многіх пакаленняў, і часта за кошт пакут цэлых пакаленняў, у кожнай з гэтых краін вярнуліся эфектам йо-йо старыя звычкі сацыяльных супольнасцей: нейнавацыйных, залежных, апатычных. Яны аддавалі перавагу адмаўленню ад сваіх правоў і грамадзянскіх свабод узамен чакаючы ад улады кіруючай дзяржавай павелічэння яе клапатлівага сервітуту. У выніку гэтага і ў Расіі, і Украіне, і Беларусі аўтарытарызм улады, пазбаўлены грамадзянскага кантролю, пераўзышоў нават савецкі перыяд. І трэба памятаць, што ўлада ў тадышняй дзяржаве была — прынамсі, тэарэтычна — калегіяльная. Кіравала партыя, а не асоба. Папраўдзе ідэалогія дамінавала над ідэяй дзяржавы, але таксама цесна адзначала межы ўлады. У новых дзяржавах улады не абмяжоўвалі ўжо дактрынальныя абрэці, ані ілюзія калегіяльнасці. Таму вырасла над імі ўлада асобнага «капрызу». Хамскага ўзбагачэння ва Украіне. Вялікарасійскіх фантазій у Расіі. У Беларусі ідзя калгаснай «хаткі скраю», такой, у якой не так ужо дрэнна, і не занадта добра, так пасвойму.

Паводле батанікаў афрыканская рарыдула і суіснуючыя з ёю насякомыя вымираюць. Калі гэты факт падняць да палітычнай аналогіі, таксама племянная прырода афрыканскіх грамадстваў а таксама тып дамінуючай у афрыканскіх краінах улады капрызных кацыкаў, паступова аджываюць. Неўзабаве ад іх застануцца хіба што толькі скамянелыя згусткі. Гэта ў Афрыцы. Але адкуль, чорт вазьмі, такія скамянелыя ўзоры ў сучаснай Еўропе?

**Міраслаў ГРЫКА**



**Вачыма еўрапейца**

# Адрэзаць ад Еўропы

Якраз у той дзень, калі найбуйнейшыя польскія СМІ паведамлялі на першых старонках аб уступленні на пасаду старшыні Еўрапейскай Камісіі Дональда Туска, і зараз пасля самаўрадавых выбараў у Польшчы, у далейшым плане паявілася інфармацыя аб гібелі ініцыятывы будаўніцтва дарогі ад Клайпеды да Салонік — шляху з поўначы на поўдзень, то-бок Віа Карпатыі (Via Carpathia). Не дапамаглі заклікі да забеспячэння роўных магчымасцей у краінах ЕС, хаця гэтая дарога знакаміта ўпісваецца ў гэты лозунг. На форуме Камісіі петыцый Еўрасаюза адкінулі ідэю аўтадарогі. Супраць былі члены найбуйнейшай фракцыі ў Еўрапарламенце — Еўрапейскай народнай партыі, у тым ліку польскія еўрадэпутаты ад Грамадзянскай платформы, згуртаваныя ў гэтай групоўцы. Першапачаткова Віа Карпатыя спалучаць мела чатыры краіны: Літву, Польшчу, Славакію і Венгрыю, і пралягаць менавіта праз Каўнас — Беласток — Люблін — Жэшаў — Прэшаў — Кошыцы — Дэбрэцэн. Такое рашэнне было прынята ў Ланцуце 27 кастрычніка 2006 года ў ходзе міжнароднай канферэнцыі «Адна дарога — чатыры краіны» з удзелам міністраў транспарту Літвы, Польшчы, Славакіі і Венгрыі. 22 кастрычніка 2010 г. у Ланцуце ўрачыста была падпісана дамова аб далучэнні да ініцыятывы чарговых трох краін: Балгарыі, Грэцыі і Румыніі. Шлях Віа Карпатыя ў Польшчы меў налічваць 683 км. Да гэтага часу ў Польшчы ўзнікла толькі некалькі кароткіх адрэзкаў, якія супадаюць з гэтым шляхам. Намаганні партнёраў праекта прывялі ў 2011 годзе да ўключэння ўсяго маршрута Віа Карпатыі ў вузкі спісак прыярытэтных шляхоў, прапанаваных Еўрапейскай Камісіі Міністэрствам інфраструктуры. Згодна з планамі, у Польшчы мела яна ўяўляць сабой асноўнае спалучэнне важнейшых рэгіянальных цэнтраў, размешчаных на ўсходняй мяжы краіны: Беластока, Любліна і Жэшава. Як падкрэслілі спецыялісты, дзякуючы Віа Карпатыі паляпшэнне транспарту «істотна паўплывае на павелічэнне гаспадарчых інвестыцый, уносячы ўклад у інтэнсіфікацыю эканамічнага развіцця гэтага абшару».

Як патлумачыў у інтэрв'ю парталу **«wPolityce.pl»** еўрадэпутат Тамаш Парэмба, намеснік старшыні Камітэта па транспарце і турызме ЕП, петыцыя была канчаткова заблакаваная па ініцыятыве дэпутатаў Грамадзянскай платформы, у тым ліку Яраслава Валэнсы і Юліі Пітэры, а падаў яе адзін з жыхароў Сталёвай Волі:

— Віа Карпатыя дазволіла б на выраўноўванне адрозненняў, якія існуюць паміж Польшчай і краінамі так званага старога Еўрасаюза ў галіне аўтамабільнага транспарту. Такім чынам, рашэнне еўрадэпутатаў ад ГП — абсалютна скандальнае. На самой справе, гэта чыста палітычнае рашэнне. У адпаведнасці з прынцыпам: калі гэта ініцыятыва ПіС, нельга яе падтрымліваць, незалежна ад таго ці яна разумная ці не. З таго часу, адкуль працую ў ЕП, упершыню я сустрэўся з сітуацыяй, калі польскія еўрадэпутаты такім чынам угробліваюць важныя стратэгічныя планы датычныя развіцця Польшчы.

Падкрэсліў:

— Становішча размоў з Брусселем было настолькі прасунутае, што ЕС пагадзіўся накіраваць маніторынгавую місію для распазнання гэтай тэрыторыі. Цяпер да праекта не вернуцца. Віа Карпатыя ад пачатку па-мачашынаму трактавалася польскім урадам, які не бачыў ніякай неабходнасці будаваць гэты транспартны калідор, таму што ён праходзіць праз усходнюю Польшчу. А ўсходняя Польшча ў адпаведнасці з планамі ГП будзе проста белай плямай камунікацыі. Яны зрабілі ўсё, што маглі, каб забакаваць ініцыятыву. У рамках рэвізіі транс'еўрапейскай транспартнай сеткі ўвялі толькі невялікі адрэзак паміж Жэшавам і Люблінам у сетку галоўных калідораў, якія павінны быць пабудаваны да 2030 года. Астатняя частка маршруту, пралягаючага праз усю ўсходнюю Польшчу, не была ўвогуле ўключана ў сетку прыярытэтных дарог. Таму ўзнікне яна значна пазней, да 2050 года.

Пасля паведамленняў СМІ ў справе Віа Карпатыі Яраслаў Валэнса растлумачыў:

— Ініцыятыва ў Польшчы будзе рэалізавацца так як да гэтага часу Міністэрствам інфраструктуры і развіцця. На гэтым шляху ўзнікае ці плануецца шэраг інфраструктурных праектаў.

Адрэзкі па Віа Карпатыі на тэрыторыі Падляшскага ваяводства на шляху **S-19** Беласток — Люблін былі ўключаны ў ваяводскі дагавор, заключаны паміж урадам і ваяводскім самаўрадам Падляшша на 2014-2020 гг. Будуць фінансавацца за кошт Нацыянальнай аперацыйнай праграмы «Інфраструктура і асяроддзе». Той запіс у дамове, гэта, здаецца, магчымасць, а не прадвызначаная інвестыцыя.

— Гэта не сакрэт, што будаўніцтва Віа Карпатыі супярэчыць эканамічным інтарэсам Заходняй Еўропы, — пракаментаваў рашэнне Камісіі па петыцыях Роберт Жылінскі, старшыня Сувальскай спецыяльнай эканамічнай зоны, якая ўтвараецца на абшарах якраз вакол Віа Карпатыі.

**Мацей ХАЛАДОЎСКІ**

# Аналізы па заказе

**— Беларуская меншасць у Польшчы не можа спазнаць «раскошы» шырокага кантакту са сваёй роднай краінай, прычынай скарачэння ліку беларускай меншасці ў Польшчы з'яўляецца павышэнне нацыянальнай самасвядомасці вернікаў праваслаўя, а мова не з'яўляецца яе адзнакай, і, нарэшце, увядзенне паняцця праваслаўная этнічная група ці нацыянальная праваслаўная ідэнтычнасць у дачыненні да беларускай меншасці і ўвогуле спыненне выкарыстання паняцця беларуская меншасць, а замест гэтага беларусы ў Польшчы, — гэта толькі некаторыя з тэзісаў, якія паставіў праф. Андрэй Садоўскі, прадстаўляючы перад сеймавай камісіяй нацыянальных і этнічных меншасцей свой аналіз наконт значнасці праваслаўнай рэлігіі для падтрымання беларускай нацыянальнай ідэнтычнасці беларусаў у Польшчы.**

Сеймавая камісія, згодна з прапановай яе віцэ-старшыні падляшскага дэпутата ад СЛД Яўгена Чыквіна (галоўны рэдактар штомесячніка „Przegląd Prawosławny", які, як часопіс рэлігійнага характару, не можа быць прафінансаваны Міністэрствам адміністрацыі і лічбавізацыі як часопісы нацыянальных і этнічных меншасцей — акрамя нацыянальных укладак — і змагаецца з фінансавымі цяжкасцямі) занялася 3 снежня двума аналізамі падрыхтаванымі на яе просьбу, і выкананымі на заказе Бюро сеймавых аналіз. У пасяджэнні камісіі таксама прынялі ўдзел у якасці гасцей: настаўніца беларускай мовы Аліна Ваўранюк з аб'яднання АБ-БА, Славамір Іванюк — віцэ-старшыня Беларускага гістарычнага таварыства, Яўген Вапа — старшыня Беларускага саюза ў Польшчы, а таксама віцэ-старшыня БГКТ Васіль Сегень. Спачатку, у прысутнасці толькі некаторых членаў гэтай камісіі з сямнаццаці асоб (частка прыйшла толькі зарэгістравацца ў спісак наведвальнасці, а іншыя нават для гэтага не з'явіліся) выслухалі аналіз, падрыхтаваны гісторыкам універсітэта ў Беластоку прафесарам Яўгенам Мірановічам, з-за яго адсутнасці ў перакказе дэпутата Чыквіна. У ім абмяркоўвалася сітуацыя беларускай меншасці ў Польшчы ў 1944-1956 гадах, пачатая інфармацыяй:

— Існуючыя дакументы дазваляюць зрабіць выснову, што зараз пасля таго, як скончылася вайна, на тэрыторыі Беластоцкага ваяводства ў Сакольскім, Беластоцкім і Бельскім паветах жыло каля 160 тысяч беларусаў. Да нацыянальнай катэгорыі прылічаны былі вернікі праваслаўя, гаварыўшыя на розных беларускіх дыялектах. Апрача праваслаўных жыло таксама 230 тысяч каталікаў, носьбітаў у паўсядзённым жыцці беларускай мовы, але ў пераважнай большасці меўшых польскую нацыянальную самасвядомасць.

## Беларусы пасля вайны

Успамінаючы аб першых двух гадах пасля вайны праф. МІрановіч заключыў:

— Дзеянні падполля не абмяжоўваліся да барацьбы супраць структур камуністычнай дзяржавы, але таксама накіраваны былі на беларускае насельніцтва (...). Толькі размовы з прамымі ўдзельнікамі падзей дазваляюць вызначыць, у якой ступені прыналежнасць да падземнай сеткі маскіравала звычайнае рабаванне і разбой (...). Некалькі з вывучаных выпадкаў выканання смяротных прысудаў схіляе да высновы, што камандзіры падполля, выступаючы ў ролі суддзяў і катаў, часта дзейнічалі не ад імя айчыны, але ўласнай карысці.

Звярнуў увагу ў гэтым матыве:

— Асаблівa падрабязнага тлумачэння патрабуюць рэпрэсіі падполля ў адносінах да беларусаў па палітычных прычынах. Часцей за ўсё было гэта абвінавачанне ў супрацоўніцтве з камуністычным рэжымам, кантактах з НКУС ці УПБ. Больш пільны погляд на спісак выкананых судовых пакаранняў у дачыненні да асоб, указаных толькі ў адным рапарце камандзіра V Віленскай брыгады маёра Зыгмунта Шындзеляжа «Лупашкі» дазваляе толькі заключыць, што забілі людзей, назначаных камандзірам раёна Бельск-Падляшскі Янам Трусякам «Карыцкім», а таксама больш дзясятка староннiх асоб.

Тут успомніў пра забойствы, якія ўчынілі атрады «Лупашкі» і «Бурага». Аб удзеле асоб беларускага паходжання ва ўладных структурах непасрэдна пасля вайны ўспамінаў:

— Беларус, які быў прызначаны на пасаду войта або нават звычайнага гмiннага служачага, як правіла, не супрацьдзейнічаў адкрытай асіміляцыйнай палітыцы вышэйшых органаў, паводзіў сябе пасіўна, і нават выконваў гэтыя загады, якія на самой справе вялі да ліквідацыі беларускага нацыянальнага жыцця.

Як адзначыў, калектывізацыя, у сваю чаргу, прывяла да дэпапуляцыі беларускага сяла на Беласточчыне, а перасяленне беларускага насельніцтва ў гарадское асяроддзе спрыяла яго асіміляцыі ў польскай культуры. Таксама падкрэсліў:

— Да 1956 г. не існавалі ніякія інструменты для зносін польскага і беларускага грамадства на Беласточчыне.

У высновах, спасылаючыся на папярэднюю інфармацыю, між іншым адзначыў, што большасць беларусаў, якія пасля вайны апынуліся ў новых межах польскай дзяржавы, не скарысталася магчымасцю перасяліцца ў савецкую Беларусь. Узамен за адмову ад патрабаванняў нацыянальнага характару польскія ўлады прапанавалі беларусам удзел ва ўсіх органах дзяржавы. Змены пасля 1944 года большасць беларусаў разглядала як зварот да лепшага. Трывалым эфектам дзейння падполля застаўся страх сярод беларусаў перад кожным ажыўленнем нацыяналістычных настрояў сярод палякаў. Эскалацыя міжэтнічнай напружанасці на Беласточчыне спрыяла канкурэнцыя за ўладу ў камітэтах ПАРП паміж польскімі і беларускімі камуністамі.



## Ліст сем'яў загінулых

Дэпутаты атрымалі ліст Юзафа Антанюка з Бельска-Падляшскага, віцэ-старшыні Грамадскага камітэта членаў сем'яў замардаваных збройным падполлем 29 студзеня — 2 лютага 1946 г. Патрабуе ён у ім ад іх імя палажэнняў у навелізаваным законе аб ветэранах і некаторых асобах, якія з'яўляюцца ахвярамі рэпрэсій ваеннага і пасляваеннага перыядаў, якія дазволілі б часткова, нават сімвалічна пакрыць шкоды, нанесеныя ім. Гэта тычыцца забойства атрадам «Бурага» ў Бельскім павеце 82 чалавек, у тым ліку дзяцей, жанчын і пажылых людзей, і 30 мужчын, так званых «фурманоў». У лісце Юзаф Антанюк успомніў: «Да здзяйснення гэтых злачынстваў праводзілася селекцыя: асобы каталіцкага веравызнання былі звольнены, а праваслаўных забівалі». Абапіраючыся на выніку расследавання ІНП і прызнанне судом злачынства атрада «Бурага» за злачынства генацыду, успамінаў: «Канчатковае завяршэнне расследавання, — мы спадзяваліся, — дазволіць нам, сем'ям загінуўшых, хадайнічаць за кампенсацыю, па меншай меры, параўнальную з той, якую атрымалі сем'і віноўнікаў. На жаль, таксама дарога судовага разбору зачыненая для нас. Каб суды маглі разглядаць нашы заявы, неабходным аказалася ўнясенне змяненняў у «ветэранскі» закон (адпаведны законапраект у апошнім тэрміне быў заблакаваны). На канец просьбы дэпутаты маглі прачытаць: «Хоць гэта балюча для нас, ніколі мы не пратэставалі супраць праслаўлення і чынення «героямі» тых, што апаганілі мундзір польскага салдата кроўю нявінных людзей. Мы чакаем, аднак, і просім найвышэйшыя органы ўлады Польскай Дзяржавы, прыкладання да нас элементарных прынцыпаў роўнасці і справядлівасці».

Да зместу гэтага ліста аднёсся дэпутат Чэслаў Сaберайскі з Права і справядлівасці:

— Нельга выказаць здагадку, што мардавалі атрады (з пункту гледжання множнага ліку ў дачыненні да злачыннай дзейнасці збройнага незалежніцкага падполля — М. Х). Выклятыя салдаты ваявалі за незалежную Польшчу. «Лупашка» спачатку ўсіх сабраў, вывеў з вёскі, запрасіў навонкі і сказаў: вёска будзе спалена. Нельга гэтага параўноўваць да здарэнняў на поўдні Польшчы (акцыя «Вісла» — М. Х.). Сапраўды, смяротныя прысуды былі праведзены, напрыклад, на агентах, але гэта была вайна. Здаралася на ёй і такое. Трэба пра гэта гаварыць, але не трэба рабіць з таго цэнтра тадышніх падзей.

Дэпутат Чыквін, ставячыся да эмацыйнага ў змесце ліста Камітэта памардаваных сем'яў:

— Гэта простыя людзі. Не заўсёды зважаюць на словы.

Паведаміў ад імя камісіі, што праверыць магчымасці выплат кампенсацый сем'ям забітых.

## Тэзісы прафесара Садоўскага

Шмат рознагалосся, асабліва ў прысутных у зале прадстаўнікоў беларускіх арганізацый, выклікалі тэзісы праф. Андрэя Садоўскага з Інстытута сацыялогіі ўніверсітэта ў Беластоку, які выказваўся пра важнасць праваслаўнага веравызнання ў фармаванні і падтрымліванні нацыянальнай беларускай меншасці ў Польшчы. Як адзначыў, рабіў яе неаднаразова на аснове сваіх навуковых дасягненняў і ў выніку даследаванняў, праведзеных у рамках магістарскага і доктарскага семінараў пад яго кіраўніцтвам. Амаль у самым пачатку падкрэсліў:

— Праваслаўнае веравызнанне ў цяперашні час стварае рэлігійныя, гістарычныя і культурныя асновы для фарміравання ў Падляшскім ваяводстве некалькіх своеасаблівых форм нацыянальнай ідэнтычнасці, у прыватнасці, польскай, беларускай, украінскай, расійскай, рускай і проста праваслаўнай. Надалей спрыяе шырокай мясцовай і рэгіянальнай актыўнасці жыхароў ваяводства, і такім чынам стымулюе больш шырокую грамадскую актыўнасць. У бліжэйшай перспектыве праваслаўнае веравызнанне будзе адыгрываць значную ролю ў фарміраванні польскага шматнацыянальнага і шматкультурнага грамадства.

Садоўскі адзначыў, што нацыя і рэлігія вельмі звязаны адзін з адным і ў асноўным нераздельныя, выконваюць адносна сябе асноўныя грамадскія функцыі, і ўзаемна вельмі сабе патрэбныя:

— Вельмі часта рэлігійныя каштоўнасці ў грамадскай свядомасці становяцца нацыянальнымі каштоўнасцямі (...). Рэлігія з'яўляецца важным бар'ерам на шляху асіміляцыйных працэсаў.

Спасылаючыся на даследаванні, праведзеныя ў 90-х гадах мінулага стагоддзя паведаміў, што каля 60 адсоткаў праваслаўных жыхароў былога Беластоцкага ваяводства адчувалі сябе палякамі:

— Гэта, аднак, палякі відавочна адрозныя тоеснасцю ў адносінах да палякаў, якія ўфармаваліся ў традыцыйных польскіх асяроддзях. На жаль, да гэтага часу не былі праведзены эмпірычныя даследаванні над структурай ідэнтычнасці праваслаўнага паляка (...). Цяжкасці ў вызначэнні беларускай нацыянальнай самабытнасці таксама звязаны з тым, што беларусы ў якасці роднай мовы называюць беларускую, польскую і беларускую гаворку (...). У Беластоцкім ваяводстве ў пачатку 1990-х гадоў беларусамі ацэньвалі сябе 30 адсоткаў ад агульнага ліку насельніцтва праваслаўнай веры.

Гаварыўшы пра «праваслаўную рэлігію ў якасці крытэрыю прыналежнасці да беларускай меншасці», сказаў м.інш.:

— Дамінаванне ў Польшчы прынцыпу, што кожны грамадзянін з'яўляецца членам нейкай нацыі, выразнае вылучэнне часткі праваслаўнага грамадства як не-палякаў, паступовае фармаванне беларускай эліты ў Польшчы, навучанне на беларускай мове і іншыя спрычыніліся да таго, што праваслаўная этнічная група на Беласточчыне станавілася беларускай этнічнай групай, а з часам беларускай нацыянальнай меншасцю са складанай унутранай структурай.

І дадаў зараз пасля:

— Праваслаўная царква стала практычна асноўнай крыніцай прапаноўваючай беларускай меншасці мноства агульных значэнняў (...). Я падкрэсліваю, гэта не так мова, не тэрытарыяльная тоеснасць, не беларуская гістарычная памяць, і, тым больш, не супрацоўніцтва з Беларуссю, а актывацыя рэлігійных вераванняў і практык у гарадах і паступова і ў сельскай асяроддзях, прывялі да росту беларускай нацыянальнай свядомасці.

Зрабіў выснову:

— Можна спадзявацца выкарыстання праваслаўя для інструментальных мэт, для штораз больш сфармалізаванага ўключэння веравызнання ў аэрапаг сваіх асноўных нацыянальных каштоўнасцей.

На яго думку, у цяперашні час праваслаўнае веравызнанне стварае рэлігійныя, гістарычныя і культурныя падставы для фарміравання на Падляшшы «некалькіх адмысловых форм нацыянальнай ідэнтычнасці», уключаючы беларускую.

На канец ён заявіў, што супрацоўніцтва Польскай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы з беларускай меншасцю «можа спрычыніцца да канструявання ў Польшчы новага сацыяльна-культурнага парадку, уласцівага адкрытым і полікультурным грамадствам.

## Таму, што міністр не прыкмячае

У час дыскусіі Яўген Вапа, спасылаючыся на просьбу сем'яў забітых у 1946 годзе і выказванне дэпутата Сaберайскага, сказаў:

— Кожная крыўда цягне за сабой адказнасць і задавальненне. Элементарнае пачуццё адказнасці загадвае дзяржаве пакрыць нейкім чынам шкоду гэтым пакрыўджаным асобам беларускай нацыянальнасці. У польска-беларускіх адносінах у гэтым пасляваенным матыве не прагучала нават адно слова «прабачце», не кажучы ўжо аб належных ім кампенсацыях.

праця́г ☞10

## Бельская «Маланка» на піліпаўскіх вячорках



Фота Марка ХМУРА

Вакальна-інструментальны калектыў «Маланка» існуе ўжо 24 гады і дзейнічае пры Бельскім доме культуры пад мастацкім кіраўніцтвам Сяргея Лукашука. Калектыў у суботу 22 лістапада прыняў удзел у XV Піліпаўскіх вячорках у мясцовасці Магдалін Кобрынскага раёна ў Беларусі. У гэты вечар наведалі мы таксама музей калектыву «Магдаліна», які нам паказала кіраўнік ансамбля Алена Букач. Знаходзяцца там сямейныя памяткі, такія як вышываныя ручнікі, фартушкі, кашулі, абрускі. Некаторыя рэчы маюць ужо больш чым 150 гадоў. Мы перайшлі ў другую залу музея, дзе знаходзіліся здымкі, граматы, сувеніры і ўзнагароды калектыву. Потым мы занялі месцы паміж публікай, каб пабачыць абрад Піліпаўскіх вечароў, які прадставіў нам калектыў «Магдаліна». Яны паказалі ўсё, што толькі магчыма: як даўней у вёсках збіраліся дзяўчаты і жанчыны, як пралі кудзелю, часалі лён, рвалі пер'е, вышывалі, вязалі на прутках, кручком. Цудоўна супольна праводзілі час, дзе спявалі народныя песні пра каханне, разлуку, шчасце і нядолю. Прыходзілі да іх хлопцы, ігралі на розных інструментах і таксама спявалі. Адзін раз хацелі дзяўчатам дапамагаць, а іншы раз перашкаджалі, падскубваючы дзяўчат за бачкі, каб проста звярнуць на сябе ўвагу. Але без іх было б вельмі сумна ў гэтыя доўгія вечары. Мы ўсё гэтае пабачылі і пачулі цудоўныя песні. Пасля абраду на сцэне выступіла бельская «Маланка» са сваімі песнямі «Ручнікі», «Вёсачка мая», «Белы сад» і многімі іншымі. Публіка таксама пачула дзве польскія песні: «Czerwone jagody" ў выкананні дуэту (Лідзія Маліноўская і Святлана Кобус) і «Stoi grusza» ў выкананні цэлага калектыву. Калі закончыўся наш канцэрт, наш кіраўнік Сяргей Лукашук і дырэктарка Бельскага дома культуры Малгажата Біль-Ярузельская перадалі падарункі аб бургаміcтра горада Бельска-Падляшскага Ярaслава Бароўскага і ўзаемна атрымалі цудоўныя кветкі і мноства сувеніраў ад сяброў з Беларусі. Багатай часткай гэтага вечара быў пачастунак, на якім апынуліся вялікі торт, мяса, рыба, галубцы, картофелькі з курацінай і каўбасой, пірог, хлеб і мёд. Вечар кончыўся супольна праспяванымі песнямі і танцамі. На другі дзень паехалі мы на абед у хату кіраўніка калектыву «Магдаліна» Алены Букач. Гаспадыня пачала абед малітвай, паблаславіла нас усіх і свой багата накрыты стол. Мы добра пагасцявалі і паехалі на канцэрт у Кобрынскі цэнтр культуры ў Кобрыне. Тут дырэктарка Надзея Жук і цудоўная публіка прынялі нас вельмі цёпла. У доказ сяброўства падарыла я спонсарам нашага вечара некалькі экземпляраў сваёй кніжкі «Жураўліная журба» і трошкі пра яе расказала.

Калі я вярнулася дахаты, мая чуллівая душа ўскалыхнулася, выступілі слёзы на вачах і хацелася сягнуць да вячоркаў сваіх дзядуляў і бацькоў. Хацелася праспяваць песні, які яны нас навучылі і паказаць усім вышываныя ручнікі, абрусы, якія астануцца нам на памятку багацця культуры нашых продкаў.

*Лідзія МАЛІНОЎСКАЯ*

# «Прачытай, перапішы і другому перакажы»

**Сённяшняму свядомаму і маладому беларусу цяжка нават уявіць, што нешта некалі было забароненае. Беларускія студэнты ў васьмідзясятых гадах мінулага стагоддзя, каб выдаць хаця б лістоўку мусілі пераадолець шмат цяжкасцей. А што, каб сарганізаваць патрыятычную вечарыну ці зладзіць рэйд — паход па Беласточчыне.**

**І гэта тычылася так і не зарэгістраванага Беларускага аб'яднання студэнтаў (БАС), ці пазней нефармальнай групы беларускіх студэнтаў Варшаўскага ўніверсітэта, ды нават афіцыйнай Рады культуры беларускіх студэнтаў. Ці, увага, маладзёвага гуртка пры Беларускім грамадска-культурным таварыстве (БГКТ).**

**Сярод розных відаў беларускай дзейнасці самае важнае месца займалі выданні: аднадзёнкі, адозвы, паштоўкі, зборнікі, часопісы ці перадрукі.**




Выданні згаданага перыяду падзяліць можна на дзве плыні: падцэнзурныя і непадцэнзурныя. З другой паловы васьмідзясятых гадоў нелегальнае не заўсёды было забароненым. Калі выходзіла гэта тыражом да 100 асобнікаў, можна было выдаваць.

Праўда, друкавалі значна больш як 100 асобнікаў, але пісалі, што ўсяго толькі 99 экземпляраў. Так для ведама адпаведных органаў. Гэта пра непадцэнзурныя выданні. Пачнем са студэнтаў.

Першым студэнцкім выданнем была лістоўка «Апошнія паведамленні» БАСу за кастрычнік і лістапад 1981 года. Выданне за снежань было канфіскаванае Службай бяспекі (СБ) пасля ўвядзення ваеннага становішча ў Польшчы. Лістоўку БАСу канфіскавалі разам з выданнямі Незалежнага згуртавання студэнтаў (НЗС), з якім беларускія студэнты супрацоўнічалі ад пачатку. Сваю друкарню студэнтам дала тады мазавецкая «Салідарнасць».

І што цікавае, СБ справу апавясціла шырокай аўдыторыі. Выкарыстала ў змаганні з салідарніцкім падполлем. Не раз гаварылася ў тэленавінах «Dziennik TV» у першых днях пасля 13 снежня (дата ўвядзення ваеннага становішча). «Апошнія паведамленні» БАСу былі паказваныя як прыклад таго, што «Салідарнасць» такім чынам сваю «паўзучую контррэвалюцыю» хоча перакінуць на суседнія народы Савецкага Саюза. У нашым выпадку на Беларускую Сацыялістычную Савецкую Рэспубліку. А што там было такога, што пагражала б сацыялістычнаму ладу ў СССР?

Вось для прыкладу: Хроніка дзейнасці Беларускага клуба па вул. Сенатарскай 8 у Варшаве, якая інфармавала пра ладжаныя ім сустрэчы, напрыклад, адзін з заснавальнікаў БАСу 05.12.1981 года распавядаць будзе пра пабыўку студэнтаў геаграфічнага факультэта на нарвежскім востраве Шпіцберген. Сапраўды, паўзучая контррэвалюцыя!?!

Усе тры лістоўкі канчаліся фразай «Прачытай, перапішы і другому перакажы», якая сталася пуцяводным указальнікам пазнейшых непадцэнзурных выданняў. Ваеннае становішча на нейкі час прыпыніла незалежныя беларускія выданні, прынамсі тыя студэнцкія.

Апрача легальных выданняў паралельна былі і непадцэнзурныя.

Першым бадай быў спеўнік папулярных песень, якія спяваліся на студэнцкіх рэйдах і іншых мерапрыемствах. Выдадзены зімой 1985 года, быў антыдатаваны на 1981 год. Выдаўцы БСВУ, гэта значыць былі беларускія студэнты Варшаўскага Універсітэта Яўген Вапа і ніжэйпадпісаны. Заўсёды на 25 сакавіка выходзілі лістоўкі і паштоўкі з віншаваннямі. Невялічкая лістоўка з выявай Пагоні і пажаданні на дзвюх мовах — польскай і беларускай: «Найлепшыя зычанні у юбілейным годзе — сямідзясятыя ўгодкі абвяшчэння незалежнай Беларускай Народнай Рэспублікі». Лістоўку надрукавала выдавецтва імя Улафа Пальме (былога сацыялістычнага прэм'ер-міністра Швецыі, застрэленага тэрарыстамі).

Таксама непадцэнзурны. Гэта была дапамога нашых польскіх сяброў.

Іншыя лістоўкі беларускія студэнты друкавалі з нагоды рэйдаў «Бацькаўшчына»: „17-21 ліпеня (1985 года) запрашаем на рэйд „Бацькаўшчына"". У лістоўцы пададзена была траса рэйду і каардынаты арганізатараў, што з сабою ўзяць і г.д. І патрыятычнага зместу цытаты з Масея Сяднёва: «Каб Вас не вучылі заўсёды іншыя — вучыцесь самі: наша Бацькаўшчына патрабуе лепшых людзей чым мы ёсць».

У другой палове васьмідзясятых гадоў мінулага стагоддзя папулярнымі былі перадрукі беларускай эміграцыйнай літаратуры: «Айцы БССР і іх лёс» Аўгена Калубовіча, ці з нелегальнай або забароненай у Савецкай Беларусі. Тут маем беластоцкае (прынамсі афіцыйна) выдавецтва «Бераг» і сама найменш два зборнікі: «Маладзі» Янкі Купалы і «Саната ростані» Зніча (Алега Бембеля).

Вось што выдаўцы пісалі замест уводзін да «Моладзі»: «Аддаем у Вашыя рукі шаноўныя чытачы першую кніжку, толькі што ўзнікшага беларускага незалежнага выдавецтва «Бераг». Выдавецтва ўзнікла ў выніку патрабаванняў маладой інтэлігенцыі на высокамастацкія творы беларускай літаратуры і крытыкі. (...) Верым, што лектура вершаў прынясе шмат уражанняў і хвіліну задумы над нашым лёсам. (...) Беласток 1988 г. Дзякуем М. за 50 аркушаў паперы».

Можна паясніць што М. — гэта быў светлай памяці Янка Жамойцін, а 50 аркушаў паперы гэта 50 долараў. Тады гэта былі вялікія грошы — параўнальна да месячнай зарплаты. Ну, а выдавецтва «Бераг» дзейнічала не ў Беластоку, а ў Варшаве. Але так мы (значыць я і Яўген Вапа) напісалі, каб адпаведныя органы не так лёгка нас рассакрэцілі. Выданні часта ўдавалася перакінуць у БССР.

У тым часе, у 1980-1983 гг., у самім Беластоку выходзіла шмат непадцэнзурнай беларускай літаратуры. Існавала Беларускае незалежнае выдавецтва (BNV). Назаву толькі некаторыя выданні BNV:

«Думкі пра аўтаномію», Беласток 1981 (1983) — брашура публіцыстычна-палітычнага зместу. Змешчаны ў ёй прапановы культурнай аўтаноміі беларусаў Беласточчыны.

«Універсальная дэкларацыя правоў чалавека», Беласток 1981 (1982). Перадрук з эміграцыйнага выдання.

«Праваслаўная Царква ў Беластоцкім Краі і беларуская мова ў ёй», Беласток 1981 (1982). Брашура публіцыстычнага характару, тэмай якой з'яўляецца стаўленне праваслаўнага духавенства да беларускай мовы і культуры на Беласточчыне.

Ну і самае важнае выданне таго часу — «Беларускія дакументы». Пачынаючы з ліпеня 1981 г. выйшла іх усяго 4 сшыткі. Два гады пазней BNV спыняе працу. За той час выдала яно 11 розных брашур тыражом па некалькі соцень асобнікаў. BNV узнавіла дзейнасць у 1987 годзе. Самыя важныя выданні гэта «Архіўны сшытак» як працяг «Беларускіях дакументаў». Па змесце і характары з'яўляецца ён зборам розных дакументаў, а заадно свайго роду непадцэнзурнай хронікай беларускага жыцця ў Польшчы.



З іншых выданняў Беларускага незалежнага выдавецтва трэба ўспомніць «Геніюш Ларыса, Дзевяць вершаў», «Пісьмо да сябры» або «Сказ пра Лысую гару» — перадрук самвыдата з БССР.

Гады 1988-1990 гэта ўспых незалежных выданняў. У праваслаўным манастыры ў Яблачыне выходзіць «Фос» (Святло), узнікае выдавецтва «Кантакт», якое выдае часопіс — паўгоднік з аднайменнай назвай, ці «Гасцінец» у Бельску-Падляшскім і «Часопіс» у Беластоку. Апошнія два выходзяць па сённяшні дзень.

Разумею, што далёка не ўсе выданні я тут апісаў. Калі нехта з нашых чытачоў ведае або мае іншыя выданні, з ахвотай пра іх раскажам. Усё-такі гэтая тэма патрабуе прафесійнага даследавання.

Апрача нелегальных выданняў былі і цалкам легальныя. «Ніва», а ў ёй студэнцкая старонка «Прысутнасць» і з 1984 года студэнцкі часопіс «Сустрэчы». Але аб гэтым наступным разам.

**Юрка ЛЯШЧЫНСКІ**
**Беларускае Радыё Рацыя**

Падчас пісання артыкула карыстаўся я каталогам выставы «Białoruski Drugi Obieg», якую зладзіла Таварыства «Памост» у 1990 годзе на Універсітэце ў Лідзе ды кнігай-зборнікам дакументаў «Białoruski ruch studencki w Polsce 1981-1992», аўтарства Славаміра Іванюка і Яўгена Вапы, а таксама кніжкай Веславa Харужага «Białoruski drugi obieg w Polsce 1981-1990», red. E. Mironowicz, Białystok 1994, BTH.

# Плённае зерне

Пяць гадоў таму пачалося буйнае развіццё музычнага жыцця ў крыху сонных Крынках. Да гэтай пары афіцыйна дзейнічаў там толькі хор пенсіянераў „Пагодна есень”, які займаўся выключна распаўсюджваннем польскай патрыятычнай песні. Не хапала беларускага рэпертуару, таму некаторыя крынчане, у тым ліку аўтарка гэтага артыкула, адчувалі сябе тут не зусім „у сябе”. Карыстанне беларускай мовай, у тым ліку песняй, паводле агульнапрынятай тут палітычнай карэктнасці, успрымалася як праява русіфікацыі. Усё ж такі трэба было прынамсі спрабаваць штосьці памяняць у гэтым плане. Так дайшло да стварэння трансгранічнага калектыву „Сугучча”, які потым пераўтварыўся ў „Зараніцу”.



Альжбета Чарэмха над тоўстым сшыткам асабіста сабраных песень

Тут зараз згуртаваліся і любіцельніцы польскай сучаснай песні, якія назвалі сябе калектывам „Экзіт”. Той другі, у адрозненні ад першага, меў з самага пачатку вялікую падтрымку ў мясцовым асяроддзі так з боку ўлад, як і грамадства. На беларускае „круцілі носам”. У выніку некаторыя ўдзельнікі рэпетыцый калектыву „Сугучча-Зараніца” больш і менш дабравольна перавяліся ў польскі калектыў. Беларуская „Зараніца” курчылася, курчылася ажно знікла зусім, як апошні снег напрадвесні. „Не судьба”, — гавораць рускія. Што ж, галавой муру не праб'еш. На крынскай сцэне зноў запанаваў „парадак”. І так напэўна засталося б, калі б не новы і вельмі сур'ёзны праект калектыву „Экзіт”.

Штораз прыгажэй спяваючым і квітнеючым жанчынам захацелася запісаць дыск. Яго еўрасаюзнае фінансаванне (сродкі Еўрасаюза ў рамках дзеяння 413: укаранянне лакальных стратэгій развіцця) паўплывала, між іншым, на зацікаўленне членаў калектыву культурнай спадчынай рэгіёна. Перад спявачкамі паўстаў новы выклік — вывучэнне і запіс даўно забытых песень.

— Так, баяліся беларускага рэпертуару, — кажа дырэктарка дома культуры ў Крынках, а заадно член калектыву „Экзіт” Альжбета Чарэмха. — Аказваецца, зусім непатрэбна. Цяпер „Ох чырвона каліна” гэта наш любімы шлягер. Увогуле нам лепш спяваць беларускія, чым польскія песні. Яны намнога больш мілагучныя, хутка пападаюць у вуха.

„Экзіт” складаюць сем крынскіх жанчын — працаўніц гарадской управы, павятовай рады, школы, дома культуры, адна прадае ў мясцовай краме. Займаюцца імі дзве прафесійныя музыканткі з Гародні — Ліліяна Жылінская і Інэса Кур'янава. Як самі кажуць, надта любяць спяваць і выступаць на сцэне. А каб добра выступіць, трэба падрыхтавацца. На рэпетыцыях сустракаюцца рэгулярна раз у тыдзень. Пачынаюць у 8 гадзін вечара, канчаюць каля поўначы. Мабыць, змаглі б і часцей, але яны залежны ад гродзенскіх інструктарак, якія прыязджаюць у Крынкі раз у тыдзень. Свой рэпертуар выконваюць а капэла, пад гітару, піяніна і фанаграму. З году ў год растуць яны ў сілу і прафесіяналізм. Ведаюць іх у цэлым Сакольскім павеце. Тут, здаецца, яны непаўторныя. Збіраюць самыя высокія прызы, у тым ліку і ў кузніцкім бардаўскім конкурсе, а таксама гучныя апладысменты.

Вось што пра, мабыць, пераломны для калектыву праект „Колішнія песні Крынак і наваколля” даведаліся мы ад дырэктаркі Крынскага дома культуры і члена калектыву Альжбеты Чарэмхі:

— Пачалося з дзвюх песень маёй бабы Люды. З дзяцінства помню як спявала іх на вечарках, займаючыся рукадзеллем. Гэта было „Siałem proso na zagonie” і „Płynęli po morzu falami”. Я надумалася вярнуць тое, чаго ўжо ніхто не помніць. „Зараніца” папулярызавала беларускія традыцыйныя песні, польскімі насамрэч не займаўся тут ніхто. Заяўку на гэты праект падалі мы ў чэрвені 2013 года, дамову падпісалі ў снежні 2013 г. Прыцягнулі да праекта таксама крынскіх гімназістак, якія дапамагалі ў пошуках рэпертуару, а потым разам з намі яго вывучалі. Найстарэйшая знойдзеная намі песня паходзіць з 1860 г., наймалодшыя — з 50-х гадоў XX стагоддзя. Найдаўжэйшыя прыпеўкі — з 99 куплетаў — праспявала нам Ларыса Абрамовіч з дому Курцэвіч. Гродзенскія інструктаркі Ліля і Інэса займаліся апрацоўкай — нотным запісам і аранжыроўкай знойдзенага матэрыялу, прыдаючы яму новае жыццё.

Апрацаваныя песні апынуліся не толькі на дыску, але таксама ў невялікім спеўніку, узбагачаным архіўнымі фотаздымкамі і інфармацыяй пра сённяшніх і колішніх навакольных музыкантаў.

— Тое, што ў спеўніку і на кружэльцы — гэта толькі невялікая частка сабранага намі матэрыялу з Падліпак, Лапіч, Вялікіх Азяран, Гаркавіч і Крынак. На жаль, не знайшлі мы ніводнай жыдоўскай песні, таму на патрэбы кружэлкі рашылі вывучыць сусветную „Хаванагілу”. Калі ідзе пра татараў, узялі мы інтэрв'ю толькі ў Джанэты Багдановіч з Крушынян, якая патлумачыла нам, што прадстаўнікі яе нацыі ведалі выключна польскія патрыятычныя песні. Гаворачы пра навакольны рэпертуар, нашыя беларускія музыканткі аднназначна сцвердзілі, што мова гэтых песень ім невядомая. Мы са свайго боку патлумачылі, што так гучыць наш просты дыялект. На дыску змешчаны песні на мове тутэйшай і польскай. Спадзяюся, што калісь выдадзім вялікі сур'ёзны зборнік сабраных намі народных песень. У час сустрэч з вясковымі бабулямі даведаліся мы шмат цікавага пра колішняе вясковае жыццё. Усё гэта запісалі мы ў форме фільмавага дакумента.

Са згаданым дакументам можна было пазнаёміцца 28 лістапада ў Крынскім доме культуры ў рамках прамоцыі нававыдадзенай кружэлкі і афіцыйнага падсумавання праекта.

На гэтым сустрэча калектыву „Экзіт” з народнай песняй не завяршаецца. Жанчыны надалей плануюць пашыраць свой двухмоўны колішні рэпертуар. Да нядаўна прыхільніцы сучасных польскіх рытмаў проста ім захапіліся.

— Трэба ездзіць да старажылаў, пакуль жывыя, і збіраць матэрыял. У навакольных вёсках плануем таксама ладзіць летнія канцэрты.

Але спадарыня Альжбета не думае, што „Экзіт” пераўтворыцца ў народны калектыў.

— Не знаёмімся з народнымі спеўнымі манерамі, маем сучасную аранжыроўку. Не перадаем народных песень у „чыстай” форме. Не адмаўляемся таксама ад нашага дасюлешняга лёгкага напрамку.

Калектыў, пры нагодзе запісу першага дыска „Колішнія песні Крынак і наваколля”, дабіўся шмат чаго карыснага. У іх новая, прыгожая сцэнічная вопратка ў фальклорным стылі з арыгінальнымі мясцовымі сарочкамі і чырвонымі чаравічкамі. Паявіліся новыя мікрафоны, гукавое абсталяванне і лічбавае піяніна, якімі карыстаецца не толькі „Экзіт”, але таксама дзіцячая беларуская „Заранка” і ўсе астатнія аматары кантакту з жывой музыкай. Здаецца, калектыў „Экзіт” гэта ўжо не дзевяць, а чатырнаццаць спявачак. Гімназісткам-удзельніцам праекта вельмі спадабалася супрацоўніцтва са старэйшымі сяброўкамі і яны з нецярпеннем чакаюць афіцыйнага прыёму ў калектыў. Спадарыня Альжбета абяцала таксама выцягнуць з падполля сем дзяўчынак з беларускай „Заранкі”. Мабыць, у недалёкай будучыні, пры нагодзе перамен у крынскім уладарстве, і яны змогуць афіцыйна ўпісацца ў мясцовы, культурны ландшафт.

Усё-такі варта спрабаваць. Аднойчы засеяне зерне аказалася надта плённым.

Тэкст і фота Іаанна ЧАБАН

## „Дзяды” ў Белавежы

Лістапад — месяц рэфлексіі ды задумы. У Польшчы пачынаецца з Дня ўсіх святых ды Задушнага дня, калі наведваем магілы памерлых блізкіх нам асоб. Упісваючыся ў настальгічны настрой месяца, 23 лістапада ў Белавежскім асяродку культуры адбылося мерапрыемства са спектаклем „Дзяды (частка II)”.

Белавежцаў прывіталі гукі Пятай сімфоніі Бетховена ды вучаніцы гімназіі, якія прадставілі сваю мультымедыйную прэзентацыю пра гісторыю і традыцыю Задушнага дня, абраду дзядоў ды Дня ўсіх святых у Польшчы і па ўсім свеце. Пазней вучні чацвёртага класа ўрачыста ўвайшлі на сцэну, трымаючы ў руках запаленыя зніччы. Яны распачалі з кароткага ўступу пра абрад дзядоў ды інспірацыі Адама Міцкевіча.



Школьнікаў падрыхтавала апякунка чацвёртага класа белавежскай пачатковай школы Іаанна Яганаў, настаўніца матэматыкі, фізікі ды камп'ютарных заняткаў. Маладыя акцёры ўсхвалявана ды эмацыйна адыгралі постаці драмы. Апавядальніца ды апавядальнік вельмі выразна чыталі міцкевічаўскі тэкст. Музычная афарбоўка ды сцэнаграфія з запаленымі зніччамі і папяровымі вітражамі капліцы стварылі адпаведны настрой таямнічасці. Мне асабіста спектакль нагадаў пра тое, што тэкст песні „Баранак” гурту „Культ”, запазычаны ад Міцкевіча. Заканчэнне сустрэчы шматлікім белавежскім гледачам малыя акцёры асаладзілі пірагамі ды іншымі ласункамі.

Тэкст фота Эвы ВАШЧЫНСКАЙ

## Філатэлістычная выстаўка

25 лістапада ў Гмінным асяродку культуры ў Чаромсе была адкрыта філатэлістычная выстаўка. Арганізатарам мерапрыемства быў маладзёжны філатэлістычны гурток і таварыства „Прыязны транспарт”. Філатэлістычны гурток дзейнічае ў Чаромсе з 1972 года і налічвае дзесяць членаў. Апекуном гуртка з'яўляецца Надзея Суліма, якая таксама старшынствуе таварыству „Прыязны транспарт”. Паміж чаромхаўскімі і гродзенскімі філатэлістамі вядзецца партнёрскае супрацоўніцтва, арганізуюцца супольныя выстаўкі, вядзецца абмен экспанатамі.

На выстаўцы прэзентавалася дзесяць калекцый, у тым ліку дзве гродзенскіх філатэлістаў. Беларуская калекцыя прадстаўляла сродкі транспарту — аўтамабілі і роварі. Экспанаты гаспадароў паказвалі чароўнасць натуры — раслін і грыбоў, а таксама рознага віду спартыўных гульняў.

У мерапрыемстве ўдзельнічалі беларускія госці — генеральны консул РБ у Беластоку Аляксандр Беравеня і старшыня Гродзенскага абласнога аддзялення Беларускага саюза філатэлістаў Фрэдэрык Гушча. У афіцыйнай частцы філатэлісты, калекцыі якіх прэзентаваліся на выстаўцы, атрымалі ганаровыя граматы і медалі. Такія медалі былі ўручаны беларускім гасцям і заслужаным чыгуначнікам, якія дапамагалі ў рэстаўрацыі экспанатаў арганізаванага ў Чаромсе Музея чыгуначнага транспарту. Медалі і граматы ўручыў войт Юры Шыкула. Пасля арганізатары мерапрыемства запрасілі гасцей на пачастунак пры каве і гарбаце. Паколькі імпрэза супадала з Днём чыгуначніка, банкетная частка вялася пад апекай старшыні прафсаюзнай арганізацыі машыністаў Лявона Купрацюка. Сустрэча праходзіла ў мілай сяброўскай атмасферы.

Уладзімір СІДАРУК



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)
www.e-zorka.pl

зорка
для дзяцей і моладзі

# Бельскія ліцэісты ў „Ніве”



Добрыя справы і здарэнні цягнуць за сабой новыя здарэнні і добрыя справы. Вось, чацвёртага снежня, у рэдакцыю „Нівы” з'ехаўся „цэлы” Бельск. З самага рання да нас завіталі ліцэісты-другакласнікі. Бельская моладзь паставіла сабе медыйную мэту: яны наведалі яшчэ Радыё Рацыя і Беластоцкае тэлебачанне. Сваю паездку прымеркавалі да ўрокаў пра культуру рэгіёна. На месцы журналісты нашага тыднёвіка распавялі пра значэнне і ролю газеты. Мала хто з нас уяўляе, што „Нівай” „на жыва” запісанае жыццё беларусаў на працягу XX стагоддзя. У архіўных нумарах газеты мы можам адшукаць не толькі падзеі з вёсак нашых дзядоў. Знойдзем легенды, казкі і песні з родных старонак. Пабачым, як з году ў год мянялася жыццё людзей, а таксама той момант, калі мы самі прыйшлі на свет, а пасля сталі хадзіць у школу, то-бок у бельскую „тройку”, і самі наладзілі кантакт з „Ніваю”. Спачатку як удзельнікі зорчыных конкурсаў або школьныя карэспандэнты, аўтары вершаў, апавяданняў і малюнкаў, пасля як верныя чытачы і сябры газеты або нашыя героі.

Аднак жывыя сустрэчы памятаем найдаўжэй. Мне самой прыемна было пазнаёміцца з вучнямі, з якімі „сустракалася” раней за пасрэдніцтвам лістоў і э-мейлаў. У такі момант паводзім сябе крыху па-сваяцку, як людзі, якіх аб'ядноўвае нейкая „тайна”.

Менавіта нашай „тайнай” і ёсць удзел у творчым працэсе, і „падрыхтоўка” новых аўтараў.

І каб папоўніць наш змест тымі нечаканымі канкрэтамі, пра якія мы сказалі ў пачатку, пасля візіту ліцэістаў яшчэ ў той дзень нас наведалі паэты звязаныя з Бельскам — Надзея Артымовіч, Ежы Плютовіч і Віктар Швед. Таксама завітаў шматгадовы ўдзельнік Сустрэч „Зоркі”, журналіст і новаабраны райца горада Бельска-Падляшскага Тамаш Суліма.

Пра апошніх гасцей мы з гонарам распавядалі нашым першым гасцям, бельскім ліцэістам.

**ЗОРКА,**
**фота Ганны Кандрацюк**

*Караліна КАРАВАЙ*

## Хвароба

*Якая я хворая.*
*Усё баліць.*
*Ляжу ў ложку*
*і цяжка дыхаю.*
*Усё ломіць —*
*і рукі, і ногі.*
*Як цяжка мне жыць!*
*Прашу маму: „Памажы,*
*дай лякарствы, канфітуры”.*
*Можа, трошкі паляжу,*
*а заўтра ў школу зноў пайду.*

# Архітэктурныя макеты Рамана Маліноўскага

Раман Маліноўскі, жыхар Нараўкі (Гайнаўскі павет), найперш з запалак рабіў макеты прыгожых вясковых драўляных хат з цікавай архітэктурнай развязкай. Былі яны ўсе ўдалыя. Паказаў іх на выстаўцы ў Галерэі імя Тамары Саланевіч у Нараўцы ў 2008 годзе. Пасля склейваў з планачак з фанеры з ліставых дрэў не адзін мініяцюрны макет колішняга драўлянага касцёла ў Нараўцы.

Цяпер выконвае вялікі макет даўняга белавежскага царскага палаца. Цары прыязджалі на вялікія паляванні ў пушчы і ў Белавежы пабудавалі сабе палац. Па іх загадзе была пракладзена чыгунка.

У нараўчаніна Рамана Маліноўскага моцнае захапленне да працы над макетамі цікавых важных будынін. Такому занятку прысвячае вельмі многа часу. Часта працуе ноччу, неаднойчы да самага рання. У 2015 г. канструктар-самавук займецца „пабудовай” макета царквы. Мае для гэтага і неабходны матэрыял, і спецыяльныя прылады, якія ўрэшце ўдалося яму купіць, а некаторыя зрабіць самому. Мае ён таксама дастаткова ахвоты да сваёй любімай працы.

**Тэкст і фота Янкі ЦЕЛУШЭЦКАГА**



# Увага, конкурс!!! (№ 50-14)

**Загадкі з роднай хаткі**

Разгадайце загадкі, адказы дашліце ў «Зорку» да 28 снежня, найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**1.**
Падпёршыся кіем,
Накрыўшыся шапкай,
Стаіць пад ялінкай
Ціхусенька ён.
Хто міма праходзіць —
Сагнецца з пашанай
І нізенька ў пояс
Адвесіць паклон.
(Г...)

**2.**
Ляцяць птушкі
без крыл,
а садзяцца
без ног.
(С......)

**3.**
Шмат на ёй іголак,
але
ўсе без вушак.
(Е...)

Адказ на загадкі № 45-14: рысь, бурак, сноп.
Узнагароды, кніжкі „Сямейная чытанка”, выйгралі Іаанна Рута і Кацпар Кечынскі з КШ № 3 у Гайнаўцы. Віншуем!

№ 50 [14-12-2014]

# Вуліца Уладзіміра Гайдука ў Тарнопалі?

У Тарнопалі, тут дзе я жыву, вуліцы ніколі не мелі назваў. Нам гэта не перашкаджала. Нават без назваў вуліц кожны ў вёсцы ведае, хто дзе жыве.

Апошнім часам на спатканні з войтам Нараўчанскай гміны, на якім былі мае бацькі, з'явілася прапанова назваць вуліцы ў маёй вёсцы. Прапановы такія: Свярковая, Бярозавая, Сасновая, Акацыёвая, Ясянёвая і Палявая. Калі так ужо мае быць, дык жыхары маёй вёскі папрасілі войта, каб адну вуліцу назваць імем Уладзіміра Гайдука — нашага суседа, які быў цудоўным паэтам.


Сябры „Сустрэч Зоркі” над магілай Уладзіміра Гайдука чытабць яго вершы

Думаю, што гэта найлепшы спосаб, каб ушанаваць памяць нашага земляка. Жыхары Тарнопаля напэўна ніколі яго не забудуць. Уладзіміру Гайдуку, так скромнаму чалавеку, якім ён быў, напэўна нават не снілася, што яго суседзі будуць яго ўспамінаць і высока цаніць яго паэзію.

Гэта вельмі добрая прапанова, каб толькі яе не адкінулі.

**Наталля ВАСЬКО**
Гімназія ў Нараўцы

**Ад рэдакцыі:** Сябры, поўнасцю адабраем Вашу задуму і прапанову. На нашу думку, гэта найлепшы з магчымых спосабаў, каб ушанаваць памяць паэта, які ўсё жыццё жыў у Тарнопалі, натхняўся роднай прыродай і чалавечай дабрынёй. Кожны, хто ведае спадчыну Уладзіміра Гайдука, з пашанай і пэўнай зайздрасцю думае пра Вашу мясцовасць, таму што там жыў адораны паэт, які пакінуў па сабе важныя паэтычныя зборнікі: «Ракіта», «Блакітны вырай», «Пах аернага хлеба», «Полымя роднае», «Дзівасіл».

## СОНЦА І ДОЖДЖ

(украінская казка)

Былі ў чалавека дзве дачкі. Адну ён выдаў замуж за земляроба, другую — за ганчара. Прайшоў год. Гаворыць жонка чалавеку:

— Схадзі да нашых дачушак, даведайся як яны жывуць.

Паслухаўся чалавек жонкі. Спачатку ён наведаў старэйшую дачку, у якой муж быў земляроб.

Пытае іх стары як жывуць, якога ўраджаю ў гаспадарцы чакаюць.

Земляроб кажа ў адказ:

— Што вам сказаць, бацька? Вы ж самі бачыце, якая зараз спёка і суш. Калі цягам будучага тыдня не пойдуць дажджы, усё нашае збожжа і ўраджай пасохнуць. А тады нам усю зіму прыйдзецца галадаць.

Пайшоў чалавек да малодшай дачкі, той што пайшла замуж за ганчара. Пытае іх бацька як жывуць, ці шмат місак і гаршкоў зрабілі.

На гэта ганчар кажа:

— Што вам сказаць, бацька? Мы многа зрабілі місак ды гаршкоў. Зараз усё залежыць ад надвор'я. Калі цягам будучага тыдня будзе гарачыня і спёка, тады гаршкі акуратна высахнуць. Мы прададзім іх на кірмашы і будуць грошы на зіму. А калі ўвесь тыдзень будзе шпарыць дождж, нас чакае цяжкая і галодная зіма.

Вярнуўся стары бацька дамоў.

— Ну гавары, як жывуць мае дачушкі? — пытае жонка.

Чалавек падумаў і кажа:

— Зімой або старэйшая галадаць будзе, або малодшая.

(пераклад з рускай мовы Ганны КАНДРАЦЮК)


мал. Олі Салаўянок

*Габрыеля ГОЙКА, Тыльвіца, ПШ у Міхалове*

### Вожык

*Аднойчы малы вожык*
*Згубіў дарогу*
*І не трапіў дадому.*
*Аднак спаткаў сваю маму*
*І шчасліва вярнуўся.*

## Вершы Віктара Шведа

### Іван выбівае дыван

— Дарагая мая матка,
Чаму так крычыш на татку,
Чаму ты без дай прычыны
Робіш татку напамінак?

— Сынок, зараз наш Іван
Будзе выбіваць дыван.
А ён лепей выбівае
Калі злосць у сабе мае.

### Хто табе дапамагае?

Настаўніца пытае
На занятках Фому:
Хто табе дапамагае
У школьных працах дома?

— Адкажу я без капрызу:
Не трэба мне дапамогі.
Папсаваўся тэлевізар,
Часу ў мяне многа.

### Штопар

Тата просіць сынка Сцёпу
— Скокні да суседа
І пазыч на хвілю штопар,
Госцікі прыедуць.

Просьбу Сашы сусед чуе —
Будзе ўрачыстасць:
— Скажы таце, прынясу я
Штопар асабіста.

### Ці ты думаў?

Сыночак просіць з плачам:
— Тата, рашы мне задачу.
— А сам рашыць не думаў?
— Думаў, думаў да суму.

— І што прыдумаў, нябога?
— Што без тваёй дапамогі
Хоць буду думаць многа
Я не зраблю нічога.

## Польска-беларуская крыжаванка

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку”. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

Адказ на крыжаванку № 46:

Этап, пяро, ла, гарт, кактус, шанс, пушча, дамка, сто. Спорт, пас, эра, шум, кашка, ганчар, плакса, арт, Ас, турыст, як.

Узнагароды, запісныя кніжкі, выйгралі **Магда Рошчанка, Паўліна Ёдла, Юлія Календа, Нэла Паўлючук, Марта Нічыпарук** з Бельска-Падляшскага, **Міхал Тапалянскі** з Нарвы, **Магдалена Стоцкая, Анна Бяляўская** з Нараўкі, **Эліза Крапіўніцкая** з Міхалова, **Юлія Снарская, Кінга Сахаркевіч** з Шудзялава, **Іаанна Рута, Габрыела Карбоўская** з КШ № 3 у Гайнаўцы. Віншуем!

| | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | Czas / Noga | | Siedem / Ballada | | | | |
| | Człowiek | Niebo | | | | | Kanapa / Jadło | | Moc / Kuma |
| | Portfel | | | | | | | | Strona internetowa |
| | | As | | Hossa / Usta | | | | Chór | |
| | Żółw | | | | | | | | |
| | Kometa | | Oda | | | | Oj! | | |
| | | | | | | Art | | | |

№ 50

# Піліп Кізевіч: ад ТБШ да БГКТ

**Адным з актыўных дзеячаў Таварыства беларускай школы (ТБШ) у 1930-х гадах на Беласточчыне і Гарадзеншчыне быў беларус Піліп Кізевіч (1898-1985). А ў 1950-х гадах ён стаяў каля вытокаў стварэння Беларускага грамадска-культурнага таварыства (БГКТ) у Польшчы. Пра гэтага чалавека і хочацца сёння згадаць, хаця знаёмы з ім ніколі я не быў і нават у сваім жыцці ніколі не давялося з ім сустрэцца. А Піліп Кізевіч з'яўляўся тою асобай, якая ўсё сваё жыццё думала пра лёс беларусаў, змагалася за родную мову, за беларускія школы, за тое, каб беларусы былі шчаслівым народам.**



Піліп Кізевіч



Галоўная ўправа ТБШ. Злева направа ў першым радзе Міхась Пяткевіч, Фелікс Стацкевіч, Сяргей Паўловіч, Мітрафан Кепэль, у другім радзе (злева направа) Рыгор Шырма, Піліп Кізевіч і Мікалай Марцінчык

Нарадзіўся Піліп Кізевіч 15 лістапада 1898 года ў вёсцы Стральцы Гарадзенскага павета. З малодых гадоў ён актыўна ўключыўся ў беларускі рух. У верасні 1926 года яго абіраюць скарбнікам павятовага камітэта Беларускай сялянска-работніцкай грамады — масавай легальнай рэвалюцыйна-дэмакратычнай арганізацыі працоўных у Заходняй Беларусі ў 1925-1927 гадах. А праз год ён становіцца сябрам Гарадзенскай гарадской управы Таварыства беларускай школы.

12 ліпеня 1928 года ў Гародні адбываецца з'езд павятовых дэлегатаў ТБШ. Там Піліпа Кізевіча абіраюць скарбнікам Гарадзенскага акруговага і павятовага праўленняў ТБШ. А восенню таго ж года на Гарадзенскім акруговым з'ездзе ТБШ яго аднагалосна выбіраюць дэлегатам на агульны сход ТБШ у Вільню, дзе беларускі грамадскі актывіст становіцца сябрам Галоўнай управы ТБШ, куды акрамя яго ўваходзілі Міхась Пяткевіч, Фелікс Стацкевіч, Сяргей Паўловіч, Мітрафан Кепэль, Рыгор Шырма і Мікалай Марцінчык.

Піліп Кізевіч пачынае працаваць шчыра, натхнёна, сур'ёзна. Ён з сябрамі абыходзіць беларускія вёскі, мястэчкі, гарады Гарадзеншчыны і Беласточчыны, дапамагае ствараць гурткі ТБШ, падказвае, раіць, прапаноўвае. На яго імя была нават аформлена беларуская кнігарня ў Гародні, дзе любы жадаючы мог купіць сабе беларускую кнігу, часопіс, каляндар. Паліцыя пачынае пільна сачыць за беларускім актывістам. І 7 ліпеня 1929 года яго арыштоўваюць і саджаюць за краты...

Піліп Кізевіч быў даволі адукаваным чалавекам. Ён часта друкаваўся ў віленскім беларускім друку. У сваіх артыкулах любіў паразважаць пра лёс беларусаў. Асабліва шырокі водгук выклікаў ягоны артыкул „Курсы для дарослых", які быў апублікаваны ў „Летапісе ТБШ" (1933, № 3-4, с. 53-54). У ёй аўтар адзначыў, што „беларускі народ дагэтуль знаходзіцца яшчэ на невысокім узроўні культурнага жыцця. Рэч зразумелая. Краіна наша, адсталая тэхнічна, эканамічна і палітычна, не можа даць высокіх культурных здабыткаў нашаму народу...". Далей аўтар разважаў, што беларускі селянін пад саламянаю страхою жыве зімою разам з курамі, свінямі, цялятамі, ягнятамі. „Голад таксама з'яўляецца вельмі частым госцем беззямельнага або малазямельнага, — пісаў Піліп Кізевіч. — А пры такіх непераможных абставінах, ці ж можа быць вольны прыплыў культуры?". Але, як пісаў аўтар, выхад ёсць. „Выхад не толькі ёсць, але беларускі народ на чале з ТБШ вядзе ўжо, амаль па ўсёй Заходняй Беларусі, жывую культурна-асветную працу ў розных формах. Побач з дамаганнем школы ў роднай мове, сваімі ўласнымі рукамі стаў браць што сябе тое з навукі, што можа. Вёска і места загаварылі аб кніжцы, аб газеце, аб спектаклях, аб лекцыях. Гарэлка ж і тытунь адсунуты ў мінулае гісторыі. Нягледзячы на перашкоды, на той цярністы шлях жыцця і працы, народ наш на чале з ТБШ ідзе бадзёра да вызначанае мэты...", — пісаў Піліп Кізевіч.

Ён быў заўсёды аптымістам і актывістам. Зімою ў 1932-1933 гадах Піліп разам з сябрамі Беластоцкай акруговай управы ТБШ наладзілі вялікі цыкл лекцый па ўсёй акрузе. Былі арганізаваны пры гуртках ТБШ курсы для дарослых і праведзены заняткі з неадукаванымі і малаадукаванымі людзьмі. Напрыклад, пяшчаніцкі гурток ТБШ арганізаваў курсы для дарослых, якія складаліся з дзвюх груп: непісьменныя і малапісьменныя. У першай групе выкладалася беларуская мова, вучыліся чытаць і пісаць, лічыць да 100. У другой групе выкладалася беларуская мова, граматыка, правапіс, арыфметыка, гісторыя і геаграфія Беларусі. Працавалі каля 25 гадзін.



Гродзенскі гурток ТБШ. Піліп Кізевіч стаіць пасярэдзіне пад Пагоняй, першая палова 1930-х гадоў

Дзярнякоўскі гурток ТБШ таксама наладзіў курсы для дарослых, дзе выкладаліся беларуская мова, арыфметыка і гісторыя. Працавалі 20 гадзін.

Залуцкі гурток ТБШ арганізаваў курсы для дарослых, дзе выкладаліся беларуская мова і арыфметыка.

Вельмі актыўна праводзілі курсы для дарослых сябры Навасёльскага гуртка ТБШ. Выкладаліся беларуская мова, гісторыя і геаграфія. З дарослымі працавалі 15 чалавек з ТБШ, сярод якіх былі і тры дзяўчыны. Сябры Белявіцкага гуртка ТБШ выкладалі беларускую мову, арыфметыку, геаметрыю, гісторыю і геаграфію Беларусі. Вельмі актыўным сябрам ТБШ у гэтым гуртку быў спадар Лебядзінскі...

Гэта толькі некалькі прыкладаў, каб паказаць, што рабілася сябрамі ТБШ на Беласточчыне дзеля ліквідацыі непісьменнасці сярод беларусаў. І ў гэтым была вялікая заслуга сябра Галоўнай управы ТБШ Піліпа Кізевіча.

Пасля Другой сусветнай вайны Піліп Кізевіч жыў у Беластоку. У верасні 1949 года на Беласточчыне пачаліся арганізоўвацца школы з беларускай мовай навучання. У сувязі з гэтым Куратория Беластоцкай школьнай акругі вырашыла ўзяць чалавека на пасаду візітатара школ для такога віду ўстаноў. У 1950 годзе на гэтую пасаду быў прыняты ніхто іншы як Піліп Кізевіч. Тры гады ён працаваў на ніве беларускай асветы на Беласточчыне.

З самага пачатку 1956 года ў Польшчы рабіліся першыя арганізацыйныя захады наконт заснавання Беларускага грамадска-культурнага таварыства. У памяшканні Ваяводскага праўлення Таварыства польска-савецкай дружбы ў Беластоку быў створаны аргкамітэт па стварэнню БГКТ. У яго склад увайшлі 9 чалавек, сярод якіх быў і Піліп Кізевіч. Камітэт павінен быў падрыхтаваць арганізацыйны з'езд і скамплектаваць рэдакцыйны калектыў. І камітэт паспяхова з гэтым справіўся. 26 лютага 1956 года ў Беластоку адбыўся першы з'езд БГКТ. З'езд Піліпа Кізевіча абраў намеснікам старшыні галоўнага праўлення БГКТ. А 30 сакавіка 1958 года ў Беластоку адбыўся другі з'езд БГКТ. У склад прэзідыума ГП БГКТ увайшлі Уладзімір Станкевіч — старшыня, Піліп Кізевіч — намеснік старшыні і Віктар Швед — сакратар.

Вось што мне прыгадаў беларускі паэт Віктар Швед з Беластока пра Піліпа Кізевіча: „Сустракаліся мы вельмі часта на прэзідыумах Галоўнага праўлення БГКТ. Піліп Кізевіч заўсёды быў надта актыўны, ён быў адказны ў Таварыстве за культурную працу. Высокага росту, прыстойны старэйшы чалавек, вельмі шчыры беларус, лагодны і памяркоўны, карыстаўся аграмаднай папулярнасцю не толькі ў беларускім асяродзі. У прафесійнай працы быў ён дырэктарам Беластоцкага прадпрыемства водаправодаў і каналізацыі. Яшчэ нядаўна я размаўляў з чалавекам, які з ім працаваў і ён запамятаў свайго дырэктара як добрага арганізатара працы, справядлівага, надта спагадлівага і дабрэйшага культурнага чалавека".

Піліп Кізевіч меў шмат сяброў. Асабліва даражыў сяброўствам з тымі, з кім працаваў разам у ТБШ. Ён перапісваўся з Рыгорам Шырмам, Міхасём Забэйдам-Суміцкім, шчыра сябраваў з Пятром Ластаўкам, які быў арганізатарам славутага прадпрыемства „Бэтэска" ў Варшаве і фінансаваў беларускія справы. У памяшканні беларускага тыднёвіка „Ніва" ў 1958 годзе адбылася сустрэча з Рыгорам Шырмам. На сустрэчу да беларускіх журналістаў і літаратараў вядомага дзеяча Заходняй Беларусі запрасіў Піліп Кізевіч. Ён расказаў аб грамадскай і палітычнай дзейнасці кампазітара ў час санацыйнай Польшчы ў 1920-1930-х гадах, спыніўся на яго творчасці і дзейнасці. Тады і Рыгор Шырма прыгадваў, як са скрыпкай пад пахай з сябрамі вандраваў па Беласточчыне, ад вёскі да вёскі, збіраючы народныя песні. Пяшчанікі, Страшава, Гарадок, Тапілец — мясціны былі добра знаёмыя і Шырму, і Кізевічу.

Прыязджаў у Беласток і Міхась Забэйда-Суміцкі ў 1965 годзе. Яго з сябрамі БГКТ шчыра вітаў і Піліп Кізевіч. Гэта ён арганізоўваў у 1937 годзе гастролі спевака ў Беластоку, гэта ён з радасцю вітаў госця і ў 1965 годзе. Тады Міхась Забэйда-Суміцкі даў сем канцэртаў на Беласточчыне — у Міхалове, Бельску, Саколцы, Гайнаўцы, Мілейчычах і два ў Беластоку. І заўсёды з ім побач быў сябра Піліп Кізевіч.

Піліпа Кізевіча на Беласточчыне вельмі любіла і паважала беларуская моладзь. Ён для юнакоў і дзяўчат быў аўтарытэтам і беларусам з вялікай літары. Калі не стала Піліпа Кізевіча (памёр 17 студзеня 1985 года), Сакрат Яновіч апублікаваў невялікія ўспаміны ў тыднёвіку „Ніва" (17 лютага 1985 года) пра дзядзьку Піліпа. Артыкул свой ён так і назваў „Памяці дзядзькі Піліпа". У ім аўтар шчыра і адкрыта сказаў: „Дзядзька Піліп увасабляў нам сабою дзівосна жывую лучнасць паміж даўнім і новым, абарваную войнамі, акупацыямі і чым хочаш. Мы, маладыя, глядзелі на яго, як на нейкага такога, хто па-апостальску звёдаў тыя далёкія дарогі, па якіх усё ішла да нас беларускасць, гэты наш свой гонар і ў нікога не пазычаная наша свая воля жыць далей на ўласны рахунак, ды на ўласную адказнасць. Бывала і так, што бег я ў кут, каб выплакацца там Гаруновымі слязьмі ад шчасця, што я — беларус, беларус, беларус!!! Ён чуйна прыкмячаў гэтае шаленства ў нас...".

Сяргей ЧЫГРЫН

# Зазімкавы краявід

**Побач жвіроўкі, што з боку Парчоўцаў і Чапялёў уводзіць у Клімаўку, стаіць валун з інфармацыяй, што там у 1944-1948 гадах пралягала ўстаноўленая саюзнікамі дзяржаўная граніца паміж Польшчай і Савецкім Саюзам. Дзяржаўныя граніцы, бывае, устанаўлівае прырода, але ў нашым старонні прырода такая, што займаецца сама сабою, быццам жанчына перад люстэркам, а вось станаўленнем дзяржаўных граніц вымушаны займацца героі мужчынскага полу, пра што пасрэдна сведчыць і пафасны надпіс на тым валуне.**



Валун на месцы даўнейшай граніцы каля Клімаўкі



Касцёл у Клімаўцы

Мясцовая граніца, устаноўленая ў 1940-х гадах, запар з тымі гадамі становіцца не толькі тапаграфічным фактарам, але і цывілізацыйнай мяжой, устаноўленай восем стагоддзяў раней пераемнікамі Чынгісхана. Гэтая агульная граніца ўвесь час у дынамічным стане, пра што сведчаць і цяперашнія падзеі на Украіне. І каля Клімаўкі гэтыя гранічныя карэктуры мелі больш агульны маштаб. Пасля ўстанаўлення тут фармальнага царскага панавання новыя ўладары рашылі заваладаць і мясцовымі душамі — месца незалежнага ад цароў каталіцтва мела заняць падпарадкаванае пераемнікам ардынскага грамадскага ладу праваслаўе...

Драўляны касцёл у Клімаўцы быў узведзены ў 1680-х гадах; у 1686 годзе пасяляюцца там манахі ордэна дамініканцаў. Лешак Ясельчук, аўтар манаграфіі пра парафію ў Клімаўцы: „W niedługim czasie mała ta miejscowość wyrosła na silny i znany ośrodek religijny. Stało się to głównie za sprawą cudami słynącej kopii obrazu Matki Bożej Częstochowskiej umieszczonej w klimowieckim Kościele już w dniu 14 sierpnia 1689 roku”. У 1798 годзе арганізуецца ў Клімаўцы парафія, якую царскія ўлады распускаюць дзевяць гадоў пазней. Аднак пасля чарговых сямі гадоў парафія адраджаецца, ды зноў не на надта доўга. Ясельчук: „Otóż w 1830 r. wybuchło powstanie listopadowe. Jego klęska przyniosła ludności polskiej straszliwe represje carskie, które szczególnie dotkliwie objęły tereny bezpośrednio wchodzące w skład rosyjskiego imperium (w tym cały Obwód Białostocki). Tutejszy klasztor i parafię skasowano, a wszelkie dobra materialne przeszły na skarb rosyjski. Cudowny wizerunek Matki Bożej został pozbawiony należnej czci i szacunku, następnie w nieznanych bliżej okolicznościach trafił do świątyni odelskiej, gdzie w zapomnieniu był przechowywany do 1918 r. W tym czasie wśród lokalnej ludności z niewiadomych przyczyn pojawiła się nowa nazwa ikony jako obraz Matki Bożej Śnieżnej. Po kasacie w 1832 r. budynki klasztorne oraz kościół w Klimówce stały opustoszałe i zamknięte. W 1838 r. władze carskie próbowały rozebrać klimowiecką świątynię z zamiarem zbudowania z niej stajni przy koszarach wojskowych w Sokółce. Jednak miejscowi, byli parafianie oburzeni rządowym projektem, nie pozwolili na zbezczeszczenie pozakonnego kościoła. Potajemnie więc podpalono świątynię, a wraz z nią spłonęły inne przykościelne budowle oraz całe opustoszałe klasztorne gospodarstwo. Wydawało się, że już nigdy kult religijny nie powróci do Klimówki...”.

У 1862 годзе тамашні памешчык Амільян Імбра ўзводзіць у Клімаўцы каменную могільнікавую капліцу, якая атрымлівае ранг філіі парафіі ў Адэльску. Ясельчук: „Po upadku powstania styczniowego car zastosował bardzo ostre represje wobec ludności katolickiej. Zamknięto wiele kościołów i kaplic. W styczniu 1866 r. zamknięto również kaplicę w Klimówce, pod pretekstem jakoby śpiewano w niej pieśni patriotyczne w czasie niedawnego powstania. W latach 80-tych z kaplicy Imbry władze utworzyły cerkiew prawosławną, ze statutem filii cerkwi w Kuźnicy. Tamtejszy pop raz do roku przyjeżdżał do Klimówki na święto



Інтэр'ер юрты

Piotra i Pawła, aby odprawić nabożeństwo dla 4 rodzin prawosławnych (byłych rodzin katolickich, które zmieniły niedawno swą wiarę za pieniądze carskie). Przez pozostałą część roku cerkiew stała zamknięta. W 1918 r. po odzyskaniu przez Polskę niepodległości kościółek Imbry zwrócono miejscowej ludności katolickiej. W grudniu 1919 r. nastąpiła ponowna erekcja parafii Klimówka pod dawnym klasztornym wezwaniem Trójcy Świętej oraz św. Dominika (na pamiątkę istnienia tu niegdyś konwentu ojców dominikanów). W 1922 r. dotychczasową kamienną kaplicę Imbry rozebrano (z powodu jej małych rozmiarów w stosunku do potrzeb parafii) i wzniesiono nowy murowany z cegły kościół, który w swym ogólnym kształcie po dzień dzisiejszy pozostał nie zmieniony. W 1944 r. dla mieszkańców Klimówki i okolic nadeszły kolejne ciężkie chwile próby wiary i patriotyzmu. Otóż tereny te weszły w skład Związku Radzieckiego. Klimowiecki kościół przez 4 lata — będąc najpewniej pod opieką Opatrzności oraz za sprawą posiadanego łaskami słynącego obrazu Matki Bożej Śnieżnej — zdołał przetrwać w sąsiedztwie zaledwie 20 m od radzieckiej granicznej strażnicy wojskowej. Kiedy na terenie całego ZSSR zamykano kościoły, prześladowano wiarę, w tutejszym sanktuarium niezachwianie i w pełnym blasku królował Cudowny wizerunek Najświętszej Pani. Zapewne też, to właśnie Matce Bożej Śnieżnej miejscowi parafianie zawdzięczają szczęśliwy powrót do ojczyzny już 15 maja 1948 r., kiedy to Rosjanie cofnęli swą granicę na wschód o „zbawienny” kilometr”. Як будзе далей — час пакажа, бо ж дух змагання, з якога б ён боку не паявіўся, не кануў у Лету...

Падобны да згаданага валун стаіць і побач асфальтоўкі з Клімаўкі ў Саколку. А ў месцы былой граніцы між Номікамі, якія таксама „перабеглі” з СССР у Польшчу, і Заспічамі стаіць аднаасобніцкі крыж з падзячным Хрысту надпісам. Хто ведае, ці гэтыя пастаянныя хваляванні вакол Клімаўкі не спарадзілі і прабуджэння беларускасці ў душах маладых клірыкаў, якія адтуль выйшлі ў свет. Пра ксяндзоў Неманцэвіча і Шырокага было. А вось з вёскі Малявічы-Дольныя, якія нейкі час былі ў Клімавіцкай парафіі, выводзіўся ксёндз Язэп Байко. Інтэрнэт-даведнік: „Нарадзіўся 18.09.1890 у Малявічах-Дольных Сакольскага павета Гарадзенскай губ. Паходзіў з сялянскай сям'і: бацькі — Мацей і Ева (з дому Аніськаў) Байко. У кастрычніку 1907 г. вытрымаў экзамен на званне аптэкарскага вучня пры экзаменацыйнай камісіі Пецярбургскай навучальнай акругі. У 1909 г. паступіў у Віленскую духоўную каталіцкую семінарыю. На правах сябра ўваходзіў у культурна-асветны гурток беларусаў-клерыкаў. Пасвячоны ў святары 16.06.1913. Душпастырскую дзейнасць пачынаў вікарыем у мясцовасці Ельня Лідскага дэканата. Пазней — на той жа пасадзе ў мясцовасці Поразава. Удзельнік 1-га з'езда беларускіх каталіцкіх святароў у Менску (24-25.05.1917), сябра саюза ксяндзоў-беларусаў. З 1918 г. служыў адміністратарам рымска-каталіцкага касцёла ў парафіі Спас Вілейскага дэканата. У душпастырскай дзейнасці звяртаўся да вернікаў з казаннямі на беларускай мове. У 1920-1925 гг. — у парафіі Слядзяны Драгічынскага дэканата. З 1933 г. — пробашч парафіі Налібакі”.

Язэп Байко быў чалавекам неардынарным. У Слядзянаве быў ён пробашчам у 1920-1933 гадах. Пад ягоным кіраўніцтвам быў там у 1924-1928 гг. узведзены новы, мураваны касцёл. У Налібоках быў стары, трохсотгадовы драўляны касцёл. Ксёндз Байко рашае пабудаваць новы, але пры нагодзе праводзіць фундаментальную працу: засноўвае цагельню, пазней электрастанцыю. Тамашнія людзі знаёмяцца з прагрэсіўнымі навінкамі... У 1943 годзе за дапамогу партызанам і яўрэям пробашча Язэпа Байко і вікарыя Язэпа Барадына гітлераўцы запіраюць у свіране і паляць жыўцом...

Каля Малявіч быў калісь вятрак, які некалькі гадоў таму згарэў. Калісь ветракі хапалі вецер у свае крылы і прымушалі яго малоць людзям муку. Цяперашнія млыны працуюць не на энергіі ветру, але скарыстоўваюць электрычны ток. А для вытворчасці электратоку зараз будуюцца адмысловыя ветракі; пакуль што каля Малявіч такіх няма... Аднак, магчыма, і тут паявяцца тыя прагрэсіўныя навінкі, якія выглядаюць крыху інакш чым іх папярэднікі. Бо ж на Сакольшчыне шмат узвышшаў, дзе калісь ставілі шмат ветракоў, а зараз выгадна ставіць ветравыя электраўстаноўкі.

Па сакольскіх пагорках лёгка лавіць вецер, аднак цяжкавата хадзіць. Ішоў я так ад чыгуначнай станцыі Чупрынова, а „заправіцца” не было дзе, бо па трасе маёй вандроўкі не было крамаў. І я ўжо ледзь валок свае ногі. У Багонніках, насупраць тамашняй мячэці ёсць агратурыстычная кватэра і я рашыў заглянуць туды. На панадворку вабіць зайсці юрта. Калі я заглядаў у тую юрту, ад хаты раздалося запрашэнне, якім я, вядома, ахвотна пакарыстаўся. Гаспадыня запрашала мяне ўсярэдзіну. Я, па сваёй звычцы, скінуў абутак, аднак яна рашуча закамандавала мне абуць яго зноў; а мне ж здалося, што ў мусульманскую хату выпадае заходзіць так як і ў самую мячэць. У сталовай была ўжо чатырохасабовая сямейка з Васількава. Гаспадыня пачаставала ўсіх двума перакачэўнікамі — з мясной і яблычнай начынкай. Смаката, што і ў казцы не расказаць.

Гаспадыня пры нагодзе сёе-тое расказала. Юрта, што на ейным панадворку, выраблена ў Манголіі, каштавала каля дзесяці тысяч злотаў. Цяпер юрты даражэйшыя і прапануе іх фірма з Сувалкаў. Я спытаў пра буйнаваты будынак, што ўзводзіцца недалёка мячэці. Гэта сын гаспадыні стаўляе гасцініцу, якая мае атрымаць назву Dworek Alego... На суседнім панадворку, побач Дома пілігрыма, ставілі касцяк чарговай юрты; мела яна быць гатова да канца лістапада.

На палявой дарозе за Багоннікамі насустрач мне ехаў мужчына на трактары. Зраўняўшыся са мною, спытаў ён, ці не да яго я іду. Бо і ў яго, у адлеглым на паўкіламетра ад вёскі хутары, агратурыстычная кватэра. І пашкадаваў я, што ўжо пасля „запраўкі” ў вёсцы не мог пакарыстацца хутаранскай прапановай. А падазраваю, што была б яна больш шчодрай...

**Тэкст і фота Аляксандра ВЯРБІЦКАГА**

З ☞ працяг

# Аналізы па заказе

Аднёсся да выказвання беластоцкага сацыёлага:

— Гаворка аб тым, што беларусы пазбаўлены гістарычнай ідэнтычнасці не адпавядае рэчаіснасці. Народ будуецца на ёй.

Аспрэчыў тэзу аб арганізаванні беларускага школьніцтва пасля апошняй вайны толькі як інструмента з боку дзяржавы. Дадаў:

— Я згодны з тэзісам аб перадачы беларускай ідэнтычнасці з сельскага насельніцтва на гарадское. Аднак нельга так проста гаварыць пры дэмаграфічнай катастрофе, якая адбылася пасля 2000 года. Менавіта ў гэтых адносінах трэба вывучыць кожную гміну, пабачыць колькі людзей сышло з гэтага свету натуральным чынам.

Падкрэсліў:

— Беларускія меншасць з 1980-х пачала ўдзельнічаць у жыцці краіны на аснове грамадзянскасці, ствараючы ўласны палітычны і самаўрадавы рух пад беларускай самастойнай шыльдай (...). Я згодны, што становішча Беларусі вызначае духоўнае жыццё беларускай меншасці, татальная русіфікацыя гэта велізарная праблема ў захаванні беларускай нацыянальнай ідэнтычнасці тут, у Польшчы (...). З пункту гледжання інтэлектуальнай падрыхтоўкі беларускай меншасці да вырашэння задач, якія стаяць перад ёю, нельга гаварыць пра паразу (...). Калі мы гаворым пра ролю Царквы і параўноўванне ў гэтым кантэксце ўкраінскай і беларускай тоеснасці, ёсць у гэтым нешта трывожнае. Набажэнствы на ўкраінскай мове вядуцца ад многіх гадоў. Уводзяцца царкоўныя службы на польскай мове, а няма беларускамоўных.

Аліна Ваўранюк, спасылаючыся ў сваю чаргу на некаторыя тэзісы праф. Садоўскага, сказала:

— Пад уплывам розных гістарычных падзей змяняліся межы, але мы заўсёды жылі тут, і тут наша радзіма. Я не думаю, што я, як беларуска, я нейкая замкнёная ці горшая. Мэта навучання беларускай мовы ў якасці мовы меншасці заключаецца ў падтрымцы нацыянальнай меншасці, і я здзіўлена, што можна ўвогуле выкарыстоўваць фармулёўку праваслаўнае пачуццё нацыянальнай ідэнтычнасці. Для мяне гэта меркаванні іншай эпохі. Я надалей хачу гаварыць пра сябе, што я беларуская меншасць, і што мая радзіма — Польшча.

Васіль Сегень:

— Мабыць і можна дапусціць, што можам сёння не прымяняць тэрміна нацыянальная меншасць, хоць мне асабіста не падабаецца канцэпцыя «фракцыі беларусаў у Польшчы», якую прымяніў, праф. Садоўскі. Не ўцячэм ад таго, што беларусы, украінцы і прадстаўнікі іншых нацыянальнасцей застаюцца меншасцю ў Польшчы і ад маёй краіны чакаюць абыходжання з асаблівай дбайнасцю з людзьмі са статусам меншасці, таму што ўзбагачаюць польскую дзяржаву. Я згодны, што рэлігія з'яўляецца галоўнай перашкодай на шляху асіміляцыйных працэсаў, але на ўзроўні веравызнання і Царква, ці шырэй, праваслаўнае веравызнанне, не перашкаджае ў колькасным скарачэнні беларусаў у Польшчы. Калі Царква на самой справе ўдзельнічае ў падтрыманні беларускасці ў Польшчы, можна было б чакаць падобных крокаў, як тыя, што звязаны з арганізацыяй набажэнстваў на ўкраінскай мове. Чаму Каталіцкі касцёл у Беларусі можа ўводзіць набажэнствы на беларускай мове, хаця бачыцца як установа, якая спрыяе толькі захоўванню польскасці ў Беларусі? Таксама спрыяе падтрыманню ў Беларусі беларушчыны. Чаму Праваслаўная царква ў нас не адважыцца пайсці на гэты крок, а ўводзіць службу на польскай мове? Гэта спрыяе фармаванню польскай нацыі, заціранню нацыянальных адрозненняў у Польшчы.

Спасылаючыся на матыў беларусаў забітых у лютым 1946 года, недвухсэнсоўна заявіў:

— Нельга злачынцаў разглядаць народнымі героямі.

Славамір Іванюк:

— Выступленне пана праф. Садоўскага з акадэмічнага пункту гледжання правільнае, але з рэальнасцю ў яго промах. Гэтае апісанне недакладнае і вельмі стыгматычнае, і не адпавядае рэчаіснасці. Апісанне беларускай меншасці ў Польшчы з'яўляецца апісаннем зменным і звязаным з гістарычнай памяццю (...). Больш дзясятка беларускіх арганізацый паказвае, што беларускае грамадства з'яўляецца актыўным і хоча дзейнічаць на гэтым беларускім полі, вядома, у якасці меншасці. І нейкім рашэннем з'яўляецца большае фінансаванне іхніх мерапрыемстваў. Асноўнай крыніцай з'яўляецца дзяржаўны бюджэт.

Амаль у канцы пасяджэння дэпутат Чыквін выявіў яго мэту:

— Важным пытаннем для нас ёсць тое, ці міністр, адказны за гэтую сферу (міністр адміністрацыі і лічбавізацыі — М. Х.) будзе бачыць гэтую разнастайнасць, ці, аднак, для міністэрства партнёрам будуць новыя беларусы, беларусы ідэалагічныя, палітычныя беларусы. Гэтая катэгорыя, апісаная панам праф. Садоўскім (гэта тычыцца «беларускай праваслаўнай меншасці» — М.Х.), знаходзіцца за межамі сферы яго інтарэсаў, і нават нашай камісіі. Гэта вялікая памылка. Наша супольнасць, і я ўключаюся ў яе, больш разнастайная. Царква для пераважнай большасці людзей, якіх я ведаю, гэта каштоўнасць.

Быццам пры нагодзе зараз спытаўся, не хаваючы сумневу:

— Ці хто-небудзь з вас, прысутных тут, хадзіў на тыя царкоўныя службы, калі яны арганізаваліся па-беларуску ў царкве св. Марыі Магдаліны?

Яўген Вапа з непрыхаваным абурэннем:

— Яны былі арганізаваны Беларускім аб'яднаннем студэнтаў са згоды мітрапаліта Васіля, і мы прыязджалі на іх спецыяльна кожны тыдзень з Варшавы ў Беласток.

Яўген Чыквін:

— Давайце скончым гэтую размову. Калі вы хочаце прадэманстраваць, што Праваслаўная царква з'яўляецца праблемай, то я жадаю вам поспеху.

На жаль, калі голас бралі запрошаныя на сустрэчу прадстаўнікі беларускіх арганізацый, у зале засталася спачатку толькі чатырох дэпутатаў (Яўген Чыквін, Аляксандр Сасна, Аркады Фідлер і Марыян Цыцань), затым двух (дэпутаты Чыквін і Сасна, і, нарэшце, толькі віцэ-старшыня камісіі вядучы дыскусію дэпутат Чыквін. Пасяджэнне працягвалася дзве гадзіны. Дыскусія не магла доўжыцца далей, таму што сеймавая зала, у якой яна праводзілася, была ўжо пазней забраніравана.

Тэкст і фота Мацея ХАЛАДОЎСКАГА




Калі нехта кажа слова „міфалогія" без якіх-кольвечы прыназоўнікаў, то чамусьці яно адразу атаясамляецца са Старажытнай Грэцыяй. Пэўна гэта з-за таго, што цяпер ва ўсіх школах яе, хаця б павярхоўна, вывучаюць на занятках па гісторыі старажытнага свету. А вось беларускую міфалогію ў школах, нават беларускіх, не вывучаюць. Пэўна з-за гэтага для многіх беларусаў яна невядомая, калі, канешне, яны па спецыяльнасці не этнографы ці культуролагі.

Выдатны спосаб для звычайнага беларускага чалавека пазнаёміцца з традыцыямі, міфамі і павер'ямі продкаў прадстаўляе сайт у інтэрнэце, што месціцца па адрасе http://wawkalaki.ucoz.ru. Ён носіць назву „Дзедавіца", і яго асноўнай мэтай з'яўляецца азнаямленне з беларускай міфалогіяй.

„Беларуская міфалогія — комплекс легенд і вераванняў насельніцтва Беларусі. Беларуская міфалогія ўваходзіць у агульнаславянскую і — адпаведна — у агульную індаеўрапейскую сям'ю міфалогій. На сёння вывучана даволі мала, існуе дэфіцыт аб'ектыўных пісьмовых крыніц. Акрамя вусных паданняў, даволі значную крыніцу ўяўляюць узоры народнага мастацтва, хатняга інтэр'еру, народнага арнаменту на адзенні і ручніках. Выявы, размешчаныя на апошніх, многімі навукоўцамі тлумачацца як «партрэты» язычніцкіх божастваў, як рудыменты сакральнага выяўленчага мастацтва", — распавядаецца на галоўнай старонцы „Дзедавіцы".

Уладальнікі сайта лічаць, што беларускую міфалогію патрэбна вывучаць і ведаць, „бо гэта не ідэалогія і не забабоны, а падмурак светапогляду, які сфармаваў нашу мараль, нашы паводзіны і адбіўся на генетычным узроўні". „Абсалютнае няведанне крыніцы светапогляду вядзе не толькі да духоўнай дэградацыі, але і да фізічнага вымірання народу. Наш сайт прысвечаны беларускай міфалогіі. Сайт не з'яўляецца камерцыйным, а ўсяго толькі асветніцкім. Матэрыял сабраны з розных крыніц інтэрнэту і друкаваных матэрыялаў", — кажуць невядомыя збіральнікі беларускіх міфаў. Яны чамусьці не палічылі неабходным хоць неяк прадставіць сябе віртуальным наведвальнікам. Магчыма, у гэтым плане ўсё яшчэ наперадзе, бо наступная старонка сайта, што ідзе ў агульным пераліку пад назвай „Інфармацыя пра сайт", увогуле пустая. Там, верагодна, і варта чакаць звестак пра стваральнікаў „Дзедавіцы".

Адзначым, што праведзена даволі вялікая праца па напаўненні сайта інфармацыяй. Усе беларускія міфы і ўсё, што іх тычыцца падзелена згодна літар беларускага алфавіту. Праўда, не ўсяго, а толькі паловы — да літары „П". Разам з тым, ужо многа цікавага датычнага тэмы можна знайсці і ў апублікаванай частцы.

Так, напрыклад, мала, хто ведае, што ёсць такі беларускі міфалагічны персанаж як Аб'ядала — волат, які за раз пажырае дванаццаць быкоў, хлеб кідае ў рот поўнымі вазамі і ўсё крычыць: мала! А воўк-альбінос здаўна лічыўся магічнай істотай. Яго звалі «Белы царык» і прыпісвалі яму ўладу над астатнімі ваўкамі.

Цікавым падаецца ўяўленне беларусамі чужынцаў, пра што расказваецца ў падрубрыцы «Іншаземец». Ім прыпісваліся разнастайныя хібы фізічнага, разумовага і маральнага чыну. „Лічылася, напрыклад, што ў адрозненне ад «людзей» у жыдоў не можа быць сапраўднай душы, а толькі «пара», як у жывёл (Лепельскі павет), у мазуроў — «чорная глотка» (Заходняе Палессе), а рускія («маскалі») валодаюць невысокімі разумовымі здольнасцямі: «Не дуры Маскву, яна і так дурная» (Віцебшчына)", — распавядае „Дзедавіца".

Уладзімір ЛАПЦЭВІЧ

## Дата з Календара



### Руплівец беларускай хрысціянскай місіі

# 100 гадоў з дня нараджэння Чэслава Сіповіча

Выдатны беларускі святар Часлаў Сіповіч нарадзіўся 8 снежня 1914 г. у вёсцы Дзедзінцы (Браслаўскі павет, цяпер Міёрскі раён). Паходзіў ён са шматдзетнае сялянскае сям'і беларусаў-католікаў Вінцэнта Сіповіча і Ядвігі Тычкі. Першасную адукацыю атрымаў у пачатковай школе ў роднай Дзедзінцы (з 1921 г.), а пасля ў Друі. З 1928 г. вучыўся ў Друйскай гімназіі пры кляштары айцоў-марыянаў. Пасля яе заканчэння ў 1935 г. вывучаў філасофію і тэалогію ва Універсітэце імя Стэфана Баторыя ў Вільні. Духоўным настаўнікам Сіповіча быў айцец Язэп Германовіч. У жніўні 1933 г. Часлаў Сіповіч уступіў у навіцыят марыянаў. У ліпені 1938 г. паводле загаду тагачасных польскіх улад быў, разам з іншымі марыянскімі студэнтамі, выселены з Друйскага кляштара і не змог працягваць навучання ва ўніверсітэце, бо вяртацца ў Вільню яму ўжо не дазволілі.

Далей духоўнымі ўладамі быў накіраваны ў Рым, і з 1938 г. жыў у Расійскай калегіі, вядомай як Русікум. Працягваў навучанне на тэалагічным факультэце Папская Грыгарыянскага ўніверсітэта ў Рыме. Сан святара прыняў у Рыме ў чэрвені 1940 г. ад расейскага каталіцкага біскупа Аляксандра Яўрэінава. Затым вучыўся ў Папскім Усходнім інстытуце, дзе падрыхтаваў доктарскую дысертацыю, прысвечаную ўніяцкаму мітрапаліту Ясону Смагажэўскаму. З 1947 г. Сіповіч — рэктар Беларускае каталіцкае місіі ў Вялікабрытаніі. Доўгі час быў беларускім прадстаўніком у Цэнтральным каардынацыйным камітэце Дабрачынных арганізацый уцекачоў.

У 1960 г. быў намінаваны біскупам марыяметанскім, а ў жніўні таго ж году на Міжнародным еўхарыстычным кангрэсе ў Мюнхене ўкраінскі грэка-каталіцкі біскуп Іван Бучко з украінскім біскупам Платонам Карнілякам і расейскім біскупам Андрэем Катковым хіратанізавалі Сіповіча на біскупа. Сіповіч быў удзельнікам 2-га Ватыканскага сабору, там абраны ў камісію па справах Усходніх Цэркваў. Быў генералам Ордэна айцоў марыянаў у Рыме (1963-1969). З 1959 г. — віцэ-старшыня, а з 1965 г. — ганаровы віцэ-прэзідэнт Таварыства Яна Залатавуснага ў Лондане — брытанскае арганізацыі, створанай у 1926 г. з мэтай пашырэння ў англійскамоўным свеце ведаў пра ўсходняе хрысціянства. Сіповіч быў сябрам Згуртавання беларусаў Вялікабрытаніі. Прымаў актыўны ўдзел у арганізацыі і дзейнасці Англійска-беларускага таварыства. Часта выступаў з рэфератамі на курсах беларусазнаўства. Быў сябрам рэдкалегіі навуковага часопіса «The Journal of Byelorussian Studies».

У складзе ініцыятыўнае групы беларускіх духоўных і свецкіх дзеячаў 8 лістапада 1946 г. хадайнічаў перад папам Піем XII аб прызначэнні беларускага біскупа. Адзін з арганізатараў Беларускай школы св. Кірылы Тураўскага і інтэрната пры Лонданскім доме марыянаў. Ініцыятар і заснавальнік Беларускага дома айцоў марыянаў у Лондане. У жніўні 1965 г. абраны сябрам Управы беларускага адукацыйнага і дапамогавага фонду ў ЗША. Ініцыятар адкрыцця і заснавальнік Беларускае бібліятэкі імя Скарыны і музея пры ёй. Актыўна супрацоўнічаў з беларускімі эміграцыйнымі перыядычнымі выданнямі («Беларус», «Бацькаўшчына», «Божым шляхам»). Публікаваў артыкулы, прысвечаныя рэлігійнай і культурна-грамадскай праблематыцы ў англійскамоўных выданнях. Пісаў пад псеўданімамі Васіль Друя, А. Дзедзінка.

Памёр Часлаў Сіповіч 4 кастрычніка 1981 г. у Лондане. Пахаваны на могілках св. Панкрата.

Падрыхтаваў Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ

# З Лос-Анжэлеса ў КРЫНКІ

Выпусціў больш за 50 кружэлак, чарговых 100 запісаў з такімі зоркамі як Шэр, Боз Скагс, Лары Карлтан, «Спайналь Тап». Канцэртаваў супольна з Нэнсі Ульсан, Алетай Адамс, Брэндай Расел, Дайанай Рывз, Майклам Болтанам, Джорджам Бенсанам і іншымі.

Дэвід Гарфільд, пра якога пішам, завітаў у... Крынкі! Пра спецыяльнага госця паклапацілася дырэктарка мясцовага дома культуры Альжбета Чарэмха і яе сябры. Такія выдатныя асобы не часта сюды прыязджаюць, яшчэ больш — не гуляюць па свеце без целаахоўнікаў і дарагіх аўтамабіляў. Зразу відаць, што гэты чалавек умела карыстаецца, як не кажы, незвычайнай славай. Дастаткова супольна праведзеных з ім некалькіх хвілін, каб пераканацца ў яго шчырым зацікаўленні светам і асаблівай пашане да бліжняга. Адным словам добра выхаваны чалавек.

Нягледзячы на страшэнную, збіваючую з ног стому, пасля амерыканска-польскага джэтлага (наступства далёкага падарожжа самалётам) і поўнага падзей дня вялікі госць згадзіўся даць кароткае інтэрв'ю нашым чытачам.

**— Дэвід, што прывяло цябе ў гэты куток свету?**

— Сям'я. Мой дзед выводзіўся з Беластока, а бабуля з Крынак. Іх жыццёвыя дарогі збегліся ў Нью-Йорку. Упершыню я знайшоў Крынкі чатыры гады таму. Цяпер захацелася даведацца больш пра гэтае месца.



**— Раскажы, калі ласка, пра сваё, новае адкрыццё.**

— Мая сям'я жыла тут спакон вякоў. Гэтае падарожжа з'яўляецца вяртаннем да каранёў. Яно дазваляе на адкрыццё ўласнай тоеснасці. На гэты раз мне пашанцавала пабачыць месца, у якім стаяла родная хата маёй сям'і. Ведаю дакладны адрас: вул. 11 Лістапада, № 18. У гэтым доме нарадзіліся мая бабуля, дзядзькі, радня па бацькавай лініі. Я выводжуся адсюль. Гэта сапраўды цікавае.

**— Ці можаш тады назваць Крынкі сваей „Святой зямлёй"?**

— Для мяне цэлы свет святы, але гэтая яго частка цікавейшая мяне асабліва. Я сам нарадзіўся і ўзрастаў у зусім іншым месцы і абставінах. Гэта была эпоха амерыканскага бэйбі-бума, рок-н-рола. Тут падарожнічаю ў часе, вяртаюся да крыніц. Цяжка ўсё гэта ахапіць. Здаецца, пачынаю заўважаць свой пачатак. Бачу яго таксама ў людзях, якіх тут сустракаю. Яны надта цёплыя. Сёння спявалі і рыхтавалі ежу спецыяльна для мяне. Усё гэта аўтэнтычнае і шчырае, так прынамсі мне здаецца.

**— Як справілася твая сям'я з раптоўным адарваннем ад роднай зямлі?**

— Думаю, што выезд у Злучаныя Штаты Амерыкі быў іх свядомым рашэннем. Проста прыйшла пара, каб выехаць і заняцца нечым іншым. Тады, на пачатку XX ст., Амерыку залівала хваля эмігрантаў з усіх еўрапейскіх краін.

**— Прыехаў, спазнаў і што далей?**

— У Крынках прынялі мяне асабліва цёпла. Сустрэў таксама новых сяброў, з якімі хацеў бы правесці больш часу. Яны абяцалі дапамагчы мне ў пошуках здымкаў крынскай, ужо не існуючай, хаты. Яшчэ шмат чаго не ведаю пра крынскі перыяд жыцця маёй сям'і. Асноўнае, што тут іх магілы. Я дакрануўся да мацэвы маёй прабабулі і спалучыўся з ёю. Тут ляжаць мой прадзед і прапрадзед ды іх дзяды, усе яны тут. Так гэта і ёсць, прыязджаеш, а сямейны дух ужо цябе чакае. У наступнае падарожжа забяру з сабой маіх братоў і сясцёр.

**— Апошнім часам актывізуюцца людзі, якія хочуць зберагаць яўрэйскую спадчыну Крынак. Ці далучышся да іх?**

— Я не думаў пра тое. Шчыра кажучы, атаясамліваюся з усімі людзьмі, не думаю катэгорыямі адной нацыі. Так, як мае продкі, якія распусціліся ў новым асяроддзі адразу пасля пераезду. Я не абмяжоўваюся выключна яўрэйскім асяроддзем. Адчуваю сувязь з рознымі людзьмі. Мяркую, што ўсе мы непаўторныя. Калі ідзе пра Крынкі, у будучыні хачу сыграць тут свой канцэрт.

Мы, як і Дэвід Гарфільд, яшчэ шмат чаго не ведаем пра гісторыю Крынак і людзей, якія адсюль выводзяцца. Як відаць, варта ісці гэтым следам.

**Гутарыла Іаанна ЧАБАН**

# Літаратурныя запусты ў Ахрымах

Вечарам 19 лістапада г.г. у аднаўленай святліцы ў Ахрымах (Гайнаўскі павет) ярка свяціліся вокны. На працягу ўсяго года гэта амаль выпадковасць. На дошцы аб'яў была інфармацыя, што якраз у гэты дзень прыедуць „свае" — значыць з Нараўчанскай гміны — паэты. І яны прыехалі: Вера Радзіванюк і Аляксандр Радзіванюк з Міхнаўкі, Янка Целушэцкі і Кастусь Целушэцкі з Новага Ляўкова ды Галіна Бірыцкая з Плянты. Перад вясковым домам культуры затрымаліся чатыры аўтамашыны. У адной з іх Галена-Марыёля Рээнт — дырэктарка Гміннага асяродка культуры ў Нараўцы і Альжбета Кунцэвіч — старшыня Таварыства „Ятрышнік" у Міхнаўцы і Лешуках. Прыйшлі жыхары Ахрымоў, Падляўкова і Капітаншчыны.

Падчас вечарыны, названай літаратурнымі запустамі (да запустаў 27 лістапада было няшмат часу), свае вершы чыталі ўсе літаратары. Ва ўтульнай святліцы панавала прыемная атмасфера. Вершы ўсім спадабаліся. Гэта факт. Але былі і такія рыфмаваныя творы, між іншым, новыя цікавыя вершы Кастуся Целушэцкага, што за іх слухачы вельмі хвалілі аўтара. Фурор выклікалі вершы на палітычныя тэмы на польскай мове Аляксандра Радзіванюка. Узнагароджвалі іх апладысментамі.

Паслухаць і запісаць на магнітафон выступы паэтаў з Нараўчанскай гміны спецыяльна прыехала журналістка беларускіх радыёперадач Польскага радыёвяшчання ў Беластоку. Яна даведалася, што калі дырэктаркай ГАК стала спадарыня Рээнт, літаратары з вёсак над ракой Нараўкай мелі ўжо аўтарскія сустрэчы ў васьмі святліцах і ў галерэі імя Тамары Саланевіч у Нараўцы. І яшчэ пра тое, што Таварыства „Ятрышнік" выдала зборнік вершаў Тадэвуша Кунцэвіча з Лешукоў і ў 2015 годзе выйдзе кніжка найлепшых вершаў найстарэйшай паэтэсы Веры Радзіванюк з Міхнаўкі. У Нараўчанскай гміне літаратурны гурток налічвае дзесяць чалавек.

Прысутныя на вечарыне агледзелі беларускі кінафільм „Лавачка", у якім выступілі, між іншым, паэтэса Вера Радзіванюк з Міхнаўкі і Вольга Адамюк — жыхарка Ахрымоў (яна родам з Новага Ляўкова). Старшыня Таварыства „Ятрышнік" уручыла ўсім зборнік папулярных беларускіх, рускіх і польскіх песень пад загалоўкам „Свойскі спеўнік". Сёлета выдала яго Таварыства „Ятрышнік". Удзельнікі вечарыны некаторыя з іх тут жа і заспявалі. А я меў нагоду прыслухацца, як прыгожа спявае Галена-Марыёля Рээнт. Быў у захапленні ад яе спеву. Яна мае мілагучны звонкі голас. Калі яна заспявала, то за ёю пачалі ахвотна спяваць усе ахрымаўскія жанчыны. І паплылі песня за песняй. Іх чуваць было далёка на вуліцы. Мабыць, гэтая вечарына будзе адной з незабыўных. Такія мерапрыемствы трэба часцей арганізаваць, асабліва зараз, у вольны час у зімні перыяд.

Літаратурныя запусты ў Ахрымах арганізавалі солтысы Віталь Сухадола з Падляўкова і Вальдэмар Карпюк з Капітаншчыны ды дырэктарка нараўчанскага ГАК.

**(Я.Ц.)**

# Адгаданка

1. Жыгімонт I Стары, 2. узбярэжны мабільны пясчаны нанос, 3. вялікае марское судна, 4. тысяча кілаграмаў, 5. вялікі аўстралійскі горад, 6. гімалайская дзяржава, 7. пасудзіна з дугавіднай ручкай для вадкасцей, 8. галоўны горад Азербайджана, 9. Бона з роду Сфорца, 10. левы прыток Нёмана, у Наваельні, 11. Нарач.

Адгаданыя словы запісаць у вызначаныя дарожкі, пачынаючы ад поля з лічбай. У светлых палях атрымаецца рашэнне — беларуская пагаворка.

(ш)

| | | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | 1 | | | | 2 | | | | | | |
| | | | | | | | | | | | | 3 |
| | | | | 4 | | | 5 | | | | | |
| | | 6 | | | | | 7 | | | | | 8 |
| 9 | | | | 10 | | | | | 11 | | | |

Сярод чытачоў, якія дашлюць у рэдакцыю правільныя рашэнні, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 47 нумара**

Бак, гаць, Гогаль, Доха, любоў, пілюля, удаў, якасць.

Рашэнне: **Да аглобляў коськаюць, а ў аглоблях пугі даюць**.

Кніжную ўзнагароду высылаем **Лявону Федаруку** з Рыбал.

# 14.12 — 27.12

**(22.03. — 20.04.)** 14-17.12. не пераборшч з высілкам. Вакол цябе людзі амбітныя, шчырыя. Пад іх уплывам 19-23.12. пазмагаешся за незалежнасць. Найбольшая радасць — ад дзяцей. Мілыя, спакойныя, цёплыя сустрэчы. Ажыццявіш амбітныя планы, знойдзеш разумныя выхады. Не рызыкуй. 23-27.12. праблемы з суставамі

**(21.04. — 21.05.)** 12-16.12. дасканалы час на сустрэчы, мірнае афармленне бізнесавых спраў. 18-22.12. будзеш адкрыты і ўражлівы. 19-23.12. спакойная, ціхая атмасфера. Але 18-22.12. магчымыя бурлівыя здарэнні, што могуць адвярнуць ход планаваных мерапрыемстваў. Будзь адкрыты, шмат неспадзяваных змен перад табою.

**(22.05. — 22.06.)** Прымі большую адказнасць за сваё здароўе. Паслухай унутранага голасу, што падкажа як пазбегчы сур'ёзных нямогласцей, якія могуць цягнуцца тыднямі. Каля 14.12. плануй падарожжа. Будзеш заўважаны і дацэнены на працы, можаш пазмагацца за новыя там умовы. Дастанеш тое што хочаш! 18-22.12. кіруйся інтуіцыяй, пазбегнеш прыкрых сітуацый; добры час на дзеянні, якія патрабуюць сакрэтнасці. 23-27.12. адпачывай і не думай аб справах, на якія не маеш уплыву.

**(23.06. — 23.07.)** Заззяеш інтэлігентнасцю і вынаходлівасцю. 20-24.12. — ідэальны момант на намячэнне планаў на наступны год. Не хавайся па кутках, не скромнічай. Дасканалыя адносіны з блізкімі, пачуццёвыя справы зноў набяруць бляску. Прымяняй зёлкі.

**(24.07. — 23.08.)** Ад 14.12. шчаслівыя супадзенні. Паправіцца атмасфера дома. Спакой і стабілізацыя. Грэй арганізм: еж кашы, сухафрукты, тлустыя рыбы, а як найменш сырой гароднiны, пладоў, ёгуртаў, тварагу і мучнога. 21-23.12. звяртай увагу на свае нямогласці. 25-29.12. ідэальны час для адпачынку, інспіруючых размоў, падарожжаў.

**(24.08. — 23.09.)** 18-22.12. ідэальны момант на сустрэчы, прызнанні ў пачуццях; закахаешся без памяці! Бунт дзяцей уціхамірыш, але не дагодзіш усёй сямейцы. Навучыся гаварыць рашуча „Не!". З 27.12. (да 31.12.) магчымыя цяжкасці ў рэалізацыі намераў. Абавязкова дбай аб рэгулярны рух.

**(24.09. — 23.10.)** 18-22.12. можа ў табе ўспыхнуць забытая жарсць і гарачыня ў пачуццях. Найгоршым ворагам у новай сувязі — зайздрасць. 18-22.12. уява, здольнасць прадбачвання і адчування патрэб іншых, ідэальны момант на падарожжы, наладжванне кантактаў. Добры час на крэдыты і доўгатэрміновыя інвестыцыі. Але 22-25.12. могуць нагрувасціцца праблемы.

**(24.10. — 22.11.)** 14-18.12. не рабі нічога рызыкоўнага. 17-22.12. падмацуецца твая ўява, зрэалізуеш адважныя намеры. Добры час і на ўдалыя бізнесы. Хаця добра пералічвай грошы, не задоўжвай крэдытных карт. Хутчэй ашчаджай. Таму што будуць непрадбачаныя выдаткі. 23-27.12. без цяжкасцей паставіш на сваім, будзеш мець падтрымку атачэння.

**(23.11. — 22.12.)** Будзеш вырашаць важныя справы ў пачуццях. Да 22.12. твая форма ў піку (Стральцам народжаным перад 28.11. можа спатрэбіцца лекар). Шэф на канец цябе дацэніць, даручыць амбітныя заданні (найлепшыя задумы кар'еры прыйдуць табе на... „сільвестра"). Паявіцца шанц на вельмі добры інтарэс, будзеш мець выручку на пару месяцаў. З 23.12. знакаміты час на сур'ёзныя размовы, ад якіх будзе залежаць твая будучыня.

**(23.12. — 20.01.)** 18-22.12. у выпадку бураў у пары можаш вырашыць аб расстанні. Каля 24.12. выберыся ў падарожжа (мо за мяжу?). У апошнім тыдні снежня будзеш у найлепшай форме. 27-31.12. ты вельмі баявіты, пераканаўчы. 27-29.12. магчымыя прафесійныя канфлікты і пачуццёвыя складанасці.

**(21.01. — 19.02.)** 13-17.12. фінансавыя праблемы і складанасці з-за кепскіх рашэнняў. 18-22.12. каханая асоба папракне цябе ў памылках або надта сувора ацэніць тваё паводзіны; пільнуйся, бо ўсё можа кепска кончыцца. Можа адбыцца балючая калізія ў пачуццях. На працы пертрактуй і падумай як знайсці аптымальныя вырашэнні.

**(20.02. — 21.03.)** 13-16.12. ідэальны час на любоўнае прызнанне. Зачаруеш усіх інтэлігентнасцю і адкрытасцю. Маеш нос на інвестыцыі і багатыя інтарэсы. З 23.12. пераканаешся, што твая прафесійная пазіцыя менш залежыць ад феерверкаў таленту, а больш ад адказнасці, вопыту і працавітасці. 25-29.12. зрэалізуеш свае планы і пяроймеш кантроль над справамі па-за тваім абсягам. Заплануй карнавал за мяжой — каханне не ведае граніц!

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Administracji i Cyfryzacji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі":** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уля Шубзда, Міраслава Лукша, Іаанна Чабан, Аляксей Мароз, Мацей Халадоўскі, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Юрка Ляшчынскі, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk", Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy" prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH" na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH"), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA" oraz „GARMOND PRESS", siedziba redakcji „Niwy".
**Prenumerata krajowa**
„POCZTA POLSKA", „KOLPORTER", „RUCH" - kwartalna 32,50 zł., półroczna 65 zł., roczna 130 zł.
Redakcja „Niwy" - kwartalna 50 zł., półroczna 100 zł, roczna 200 zł.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER" na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach 7[00] – 18[00].

**Wpłaty na wysyłkę z redakcji przyjmuje: Rada Programowa Tygodnika „Niwa",**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład**: 1 300 egz.



# Украіна
## ў цяні вайны (12)

На аўтавакзал, пра які даведнікі пісалі *надта важная камунікацыйная кропка*, мы дабіраліся аблезлым завулкам. Што такога здарылася ў цыганска-венгерска-гуцульскім Цячаве? Можа нейкі алігарх, заклапочаны публічным дабром, спансараваў еўрарамомт вакзала? Між першай і апошняй рэвалюцыямі частка навакольных жыхароў скандальна разбагацела і пазначыла сваю тэрыторыю палацыкамі, фантанамі ды моднымі аўтамабілямі. Праўда, усё гэтае багацце было адгароджанае ад пастаронніх вачэй высокім мурам і не жадала ядначца з грамадскай галечай. Можа, аднак? Такія ў нас былі спадзяванні і здагадкі. Сама рэчаіснасць смяялася проста ў твар.

Аўтобус брыў па раскіслай дарозе, сцелючы за сабой чорны хвост пылу. Прывакзальны завулак пасыпалі сумессю жужалю з тоўстым гравіем, з-за чаго дарога напамінала высахлае русло горскай ракі. Хоць шафёр максімальна запаволіў хуткасць, каменьчыкі і грудкі даставаліся праз прыадкрытыя на даху вокны і траплялі ў нос або шчаку. Частка пасажыраў не адрэагавала на невыгоду, многія драмалі з прыадкрытымі ратамі. На зялёных панадворках, усюды дзе не глянь, бушаваў даспяваючы вінаград.

* * *

Ну і ўрэшце той надта важны аўтавакзал! На самой справе, цягам дзесяці апошніх гадоў, ён не памяняўся, хіба што схіляўся ў бок занепаду. Драўляны туалет на панадворку, верагодна родам з часоў аўстрыйскай імперыі, зараз стаяў пад замком. Самыя адчайныя пасажыры ішлі за патрэбай у кусты або ў дзікі вінаграднік. Несумненная важнасць аўтавакзала заключалася ў яго бязмежнай абстракцыі. Гэта быў агромністы пясчаны пляц з выбоінамі, да якога, быццам на смех, прычапілі бляшаную будку. Як дзесяць гадоў таму, ніхто не заходзіў у касу набыць білет. Усё афармляў шафёр, прымаючы грошы з рукі ў руку. Касірка, добра разумеючы сваю дэкаратыўную ролю, схавалася за газетай. Загалоўкі крычалі пра сухі закон, які на час начных гадзін завялі ў мяжуючым са Славакіяй Ужгарадзе. Цячаў меў відавочны клопат са сваёй прыналежнасцю. Цяжка яго прыпісаць куды-колечы. У межах Украіны апынуўся ён толькі ў 1944 годзе. На працягу ранейшых стагоддзяў мясціна, заснаваная ў XIII стагоддзі саксонцамі, прыналежала Венгрыі або Аўстрыі, а пасля 1918 года далучылі да Чэхаславакіі. Зараз мястэчка фізічна межавала з Румыніяй і Еўрасаюзам. Тым часам на застылым у часе аўтавакзале, як пад заказ з'ехаліся выслужаныя „Запарожцы" і маршруткі. Усё выглядала як на архіўных здымках. Чыстая метафара дзесяці гадоў таптання ў адным месцы. Хоць не зусім так, на адным „Запарожцы" тырчэў еўрасаюзны сцяжок.

* * *

Сіндром дэжавю не пакідаў ні на крок. Магчыма так дзейнічаў від магутнай гары, што як Арарат у Арменіі, арганізаваў увесь краявід, думкі і пачуцці. Як дзесяць гадоў назад, у цэнтры мястэчка, ля магазінаў, проста на тратуарах выседжвалі побач гуцулкі і цыганкі ды гандлявалі грыбамі, чырвоным і жоўтым перцам, часнаком і памідорамі. Здавалася — усе тут усіх ведаюць па мянушцы, а нават па імені і прозвішчы. Этнічны каларыт, відавочны простым вокам на кожным кроку, нікога тут не здзіўляў і не палохаў, хоць у публічнай прасторы гучала адно ўкраінская мова. На адным выбарчым білбордзе кандыдат ад цыганскай меншасці, які выступаў пад лозунгам *За адзіную Украіну*, сам апрануўся ва ўкраінскую вышыванку. Для прыгожага суладдзя аднак не хапала мне прысутнасці мадзьяраў, якія паводле апошніх падлікаў складалі больш за чвэрць жыхароў мястэчка. Раней у дарозе мы бачылі дзве вёскі (забудаваныя палацамі), падпісаныя на венгерскай мове.





Tecso, бо так па венгерску гучала гістарычная назва Цячава, схавалася дзесьці ўнутры памяці і чакала свайго адкрыцця. Мясцовая шматкультурнасць мела тут прысмак дзевятнаццатага стагоддзя. Папраўдзе, кожная меншасць жыла тут асобна, і не праяўляла вялікай ахвоты аб'ядначца. Ля касцёла святога Сцяпана мы наткнуліся на цыганскае вяселле. Поўныя прыгажуні ў смарагдавых, амарантавых і туркусавых сукенках да зямлі, хутчэй як карпацкія дзеўкі, напаміналі акцёрак індускага кінакаапаратыва. Мужчыны, апранутыя як фільмавыя бонзы і мафіёзі, трымаліся з боку асобнай кампаніяй. Сярод вясельнікаў не было ні аднаго бландзіна ці хоць бы рыжага нашчадка саксонцаў.

* * *

Каб дабрацца на карпацкую трасу, мы яшчэ раз пераадолелі кашмарны завулак з жужалем і хмарамі пылу. Рызыкоўна вяртацца на месца, дзе застыў час і ўсё здаецца знаёмым, хочаш не хочаш таксама пападаеш у той настрой і рытм ды думаеш старой матрыцай. Першае апісанне мястэчка гучала так:

«Цячаў, па венгерску Tecso, распаложаны на правым баку Цісы, на мяжы з Румыніяй, хоць тут гуцульска-венгерскі этнічны сутык. Па вуліцах мястэчка ганяюцца джыпы і фурманкі. У цэнтры мы сустрэлі тысячы цыганоў. У першым бары, куды зайшлі мы паабедаць, не было перцу ні памідораў, якім славіцца мястэчка і ўсе жыхары імі гандлююць проста на тратуарах. Пры блакітных століках і пад блакітнымі крыштальнымі жырандолямі гасцявала кампанія быццам жыўцом выкадраваная з фільмаў пра мафію. Напалоханыя афіцыянткі з ходу адправілі нас да канкурэнцыі. Каб туды патрапіць, трэба перабрысці ўсё мястэчка. Цэнтр горада цягнецца нейкіх метраў дзвесце, далей пачынаецца свет як з даваеннай паштоўкі. Драўляныя домікі, панадворкі з курамі і індыком, процьма дзяцей, пах гародніны і хляўка.

Бар, які ў рэшце рэшт мы адшукалі, знаходзіўся на канцы пасёлка, далей шумелі загоны кукурузы. Там хадзілі за сваёй патрэбай аматары піва».

Як можна здагадацца, тады ў бары нас здорава ашукалі, а мы не засталіся ў даўгу і ў падзяцы напісалі рыфмаванку пра паслядоўнасць карупцыі і зладзейства. На канец пажадалі ім банкруцтва. І зараз, калі мы праязджалі ля месца, дзе стаяў той легендарны бар, у мяне скачуў ціск. У «праклятым» месцы красаваўся напаўшкляны палац.

(працяг будзе)

**Фота і тэкст Ганны КАНДРАЦЮК**


ISSN 0546-1960